

БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ Змена

ВЫДАЕЦЦА З 1921 ГОДА

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

№ 26 (13506)

24—30 чэрвеня 1991 года

Цана 25 кап.

## 30 ЧЭРВЕНЯ — ДЗЕНЬ САВЕЦКАЙ МОЛАДЗІ

У 2000 годзе кожная маладая савецкая сям'я атрымае асобную кватэру!

## ЧЫТАЙЦЕ Ў НУМАРЫ





*Навіны сталіцы*



Працягваецца аказанне гуманітарнай дапамогі дзецям, пацярпеўшым ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС. На гэты раз з дабрачыннай акцыяй у Мінск прыбыла Рэбека Мэтлак. Жонка пасла ЗША ў СССР, які завяршае сваю місію ў нашай краіне, перадала дзіцячаму аддзяленню анкалогіі НДІ радыяцыйнай медыцыны лекі на суму 13 тысяч долараў. Антыбіётыкі «Сурфакс» былі набытыя на ахвяраванні жыхароў штата Нью-Джэрсі.

НА ЗДЫМКУ: Рэбека МЭТЛАК перадае лекі загадчыку дзіцячага аддзялення анкалогіі НДІ радыяцыйнай медыцыны Рэйману Садыкавічу ІСМАІЛ-ЗАДЭ.

Дэлегацыя прыхільнікаў руху за мір Аб'яднанай Германіі «Тур-Пайпер-91» прыбыла ў сталіцу Беларусі. Гэта акцыя названа ў гонар дзіцячай клінікі ракавых захворванняў пры Гесенскім універсітэце, удзельнікі яе ажыццяўляюць дабрачынныя зборы-ахвяраванні і перадаюць іх хворым дзецям. Мэта «Тур-Пайпер-91» — прадэманстраваць клопат нямецкага народа аб людзях, якія пацярпелі ад чарнобыльскай катастрофы. На завяршальным этапе акцыі Мінскаму дзіцячаму гематалагічнаму цэнтру будуць перададзены прыборы, медыкаменты і грошы.



НА ЗДЫМКУ: ля гематалагічнага аддзялення мінчане віталі ўдзельнікаў «Тур-Пайпер-91».

Фота Юрыя ПАЎЛАВА (БЕЛТА).

# Госці Брэста

**По запрашэнню Беларускага Экалагічнага Саюза ў Брэст прыбыла група нямецкіх хлопцаў і дзяўчат, членаў Саюза хрысціянскіх байскаўтаў.**

Узрост удзельнікаў паходу 20—27 год, у асноўным гэта — студэнты, якія вывучаюць геалогію, тэалогію, гісторыю, славянскія і скандынаўскія мовы.

Разам з нямецкімі сябрамі шлях, даўжынёй 1000 кіламетраў, па маршруту «Брэст—Мінск—Масква» пройдуць удзельнікі групы «Hex Stop».

— Наша група, — расказвае Фолькер Радэлоф, — мае намер прайсці па месцах баявых дзеянняў, наведаць мемарыяльныя комплексы. Нам важна, каб рускія людзі ведалі: злачынствы таго часу намі не забыты. Але гісторыя кожнага народа—гэта гісторыя. Яе не перапішаш, як бы таго ні хацелася.

За час свайго вандравання пешшу мы, канешне, пазнаёміліся з вашай краінай. Але яшчэ вельмі чакаем сустрэч з ветэранамі прайшоўшай вайны, відавочцамі тых падзей.

Наша місія — місія прымірэння. Мы хочам удзельнічаць у стварэнні агульнаеўрапейскага дома. Дома, які не будзе ведаць граніц і войнаў, падмурак якога будзе заснаваны на дружбе народаў.

Удзельнікі паходу прынялі ўдзел у мерапрыемствах у Брэсцкай крэпасці-герої. Адбыліся сустрэчы з ветэранамі, прадстаўнікамі царквы.

А затым ад Вечнага агню экспедыцыя пачала свой паход. Маршрут уключае Баранавічы (з наведаннем былога канцлагера), Мір. Таксама ўдзельнікі экспедыцыі будуць удзельнічаць у аднаўленні раўнаапостальскага храма Марыі Магдаліны на Камсамольскім возеры ў Мінску.

Групу суправаджаюць кінематаграфісты з Германіі (пад кіраўніцтвам Рыты Клобель). Фільм, які атрымаецца, будзе паказаны па тэлебачанні Германіі, што, безумоўна, паслужыць умацаванню дружбы паміж нашымі народамі.

Яўген ПАМЫТКІН.

*Тэлетайп*

### ВАЙНА СТРАЛЯЕ Ў СЭРЦЫ...

Трагічны выпадак адбыўся ў Смалявічах пад час правядзення тэматычнага вечара «Так пачыналася вайна». Прама ў час свайго выступлення на трыбуне ад разрыву сэрца памёр інвалід Вялікай Айчыннай вайны Дзмітрый Фаміч Піпчанка. Пачаў ветэран сваё выступленне як звычайна. Але калі дайшоў да ўспамінаў аб Ленінградскай блакадзе, захваляваўся, схапіўся за грудзі і асунуўся на рукі таварышаў-ветэранаў, якія падхапілі яго. Хуткая дапамога з яе лекамі ўжо не спатрэбілася. Так роўна праз 50 гадоў пасля свайго пачатку вайна скасіла яшчэ аднаго чалавека...

### МЁД З ЧАСОЎ ВАЙНЫ

Амаль усю вёску Зазер'е, што на Рагачоўшчыне, паклікаў на гарбату пенсіянер І. С. Кавалёў. Пілі яе з мёдам, які Іван Сямёнавіч закапаў у 1942 годзе ў гляку на сваім агародзе, ратуючы ад фашыстаў хатні скарб. Доўга не мог ён адшукаць захаванае. І толькі цяпер, корпаючыся ў агародзе, выпадкова трапіў на збанок. Аказалася, што за паўстагоддзя мёд сваіх якасцяў не згубіў.

### І РУБЕЛЬ — ГРОШЫ

У нашае жыццё ўваходзіць новы рубель. Белая папера, абодва бакі расфарбаваны ў чырвона-жоўты і зялёны колеры, у сярэдзіне білета паласа зялёнага колеру, якая плаўна пераходзіць у жоўты. Напісана, што гэта цяпер не казначэйскі білет, а білет Дзяржбанка, забяспечаны каштоўнасцямі. Зніклі надпісы на мовах народаў СССР. «Калі на мове кожнага народа пісаць, то вельмі шмат трэба пісаць», — заявіў з гэтай нагоды С. Ганічаў, начальнік Упраўлення Дзяржбанка СССР. Гавораць, новыя рублі нядрэнна абаронены ад падробак. Але вось каму захочацца іх падрабляць?

### ТРАДЫЦЫІ «ЗАРНІЦЫ»

У пачатку чэрвеня ў навучальным цэнтры Н-скай вайсковай часці прайшоў абласны юнармейскі фінал, прысвечаны 50-годдзю абароны г. Магілёва ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Як паведаміла Якімава Таццяна, супрацоўнік Магілёўскага АК ЛКСМБ, у фінале прынялі ўдзел 24 юнармейскія каманды з дзесяці раёнаў вобласці, а таксама Магілёва і Бабруйска. 260 рабят на працягу чатырох дзён спаборнічалі ў стральбе, спартыўным і турысцкім мнагабор'і, паказвалі свае здольнасці па грамадзянскай абароне і ў медпадрыхтоўцы. Конкурсы «Строю і песні», «Баявога лістка», «На прывале» і проста чалавечыя зносіны — усё засталося ў мінулым. А ў выніку пераможцамі названы каманды юнармейцаў Каменскай СШ Бабруйскага раёна, Бабруйскага сельгастэхнікума і ЮВПО «Дняпровец» Бабруйскага аўтатранспартнага тэхнікума.

*Экспрэс-інтэрв'ю*

# Перабудова: на якім этапе?

Галава адмаўляецца думаць, ручка адмаўляецца пісаць, наогул, ушчэнт абрыдла пераліваць ваду слоў і сказаў на тэму «На якім этапе зараз знаходзіцца перабудова?». Але гэта — уласны стан. Магчыма, знойдуцца аптымісты? Месца інтэрв'ю — чыгуначны вакзал сталіцы Беларусі.

**Б. ЛЯСКОЎСКІ, СЛОНІМ:** «А Вы з якой газеты? Не з партыйнай? А, з камсамольскай? Усё роўна, вашы начальнікі свае фазэнды не толькі пабудаваць, але і перабудаваць паспелі. Так што ідзе перабудова!».

**А. ВІКЕНЦЬЕЎ, МІНСК:** «Памятаеце, ёсць такая песня: «Я інжынер за сотню рублёў...» Цэны перабудаваліся. Магазіны перабудаваліся. А я не перабудаваўся, мне па-ранейшаму есці хочацца...».

**Д. СОБАЛЬ, ГАРОДНЯ:** «Ведаеце, як па-ангельску будоўля? Білдзінг. А перабудова, су-адносна, дыбілдзінг. Больш мне сказаць няма чаго».

**Л. СТАНКЕВІЧ, МАСКВА:** «Вы што, сур'ёзна пытаецеся?» (...пасля майго станоўчага адказу глянуў на мяне, як на вар'ята, і адышоў).

**КААПЕРАТАР З ПОЎДНЯ:** «Спасыба партии, спасыба Гарбачову! Ты журналист, да? И тыбе спасыба, дарагой! Курага хочаш? Прыди ка мне, дёшэва прадам! Што, у нас воюют? Дуракі воюют, а умныя таргуют!».

Гэта не гратэск. Так яно сапраўды было. Чалавецтва са смехам развітваецца са сваім мінулым. Вось толькі як бы не развітацца з сучаснасцю...

Алесь ПАЛЫНСКІ.

# Уступаюць—значыць, вераць у будучыню

Больш як 12 тысяч юнакоў і дзяўчат рэспублікі за няпоўныя шэсць месяцаў гэтага года вырашылі звязаць свой лёс з камсамолам, стаўшы паўнапраўнымі членамі арганізацыі, якая вызначыла для сябе на XXIX з'ездзе галоўную задачу: адлюстраванне і абарона інтарэсаў моладзі. Гэта ў два разы больш, чым за другое паўгоддзе мінулага года. Факт, як кажуць, у наяўнасці, асабліва, калі ўлічыць, што ў рэспубліцы да гэтага часу так і не ўзнікла ніводнай маладзёжнай арганізацыі, па колькасці хаця б у дзесятую частку ад уступіўшых у ЛКСМБ у гэтым годзе. Аказваецца, справа не ў манапалізме камсамола, у чым упарта абвінавачвалі яго ў апошні час. Моладзі патрэбна такая рэспубліканская арганізацыя, якая рэальна б працавала на рэалізацыю яе інтарэсаў.

Мяркуючы па колькасці ўступаючых, у камсамола гэта атрымліваецца.

Прэс-цэнтр ЦК ЛКСМБ.

# Скарачэнне—не перашкода

*Служба*

У Мінскім вышэйшым ваенна-палітычным агульнавайсковым вучылішчы сёння, 28 чэрвеня, — выпуск чарговага атрада афіцэраў-палітработнікаў. У розныя самыя далёкія і блізкія ад беларускай сталіцы вайсковыя часці скіроўваюць выпускнікі 1991 года. Відаць, непасрэднае дачыненне да іх лёсаў акажа мяркуемае скарачэнне Узброеных Сіл краіны. Ды толькі, акрамя ваенна-палітычнай адукацыі, сёлетнія выпускнікі атрымліваюць спецыяльнасці псіхолагаў, сацыёлагаў, педагогаў.

А. КАРЛЮКЕВІЧ.

*Крымінальнае бюро*

### ХТО ХОЧА, ТОЙ ДАБ'ЕЦЦА

Мінулы тыдзень прынёс сенсацыю: ва Узбекістане за пяць месяцаў бягучага года злачыннасць рэзка знізілася. І гэта ў адной з самых традыцыйна «мафіёзных» нашых рэспублік! Пакуль цяжка адказаць, ці то гэта вынік уведзенага інстытута прэзідэнцтва, ці то намаганні праваахоўных органаў. Аднак вось толькі адзін цікавы факт: у Бухарскім раёне цяпер кожны зможа пазваніць па спецыяльным тэлефоне і, назваўшыся чатырохзначным лічбавым кодам, паведаміць пра тое ці іншае злачынства. А потым, у якасці кампенсацыі за рызыку, атрымаць у аддзяленні ашчаднага банка некалькі тысяч рублёў, для чаго дастаткова толькі сказаць свой код. Словам, ёсць чаму павучыцца і нам.

### ЗНОЎ ЗАБАСТОЎКА НА ЧЫГУНЦЫ!

22 чэрвеня, у гадавіну незабыўнай даты, відаць, прыгадаўшы подзвігі бацькоў, капітан Савецкай Арміі стварыў «забастком» з 30 пасажыраў, якія не дасталіся за білетамі на начны цягнік № 77 Масква — Гродна і перагарадзілі пуці на Мінскім чыгуначным вакзале. Пасля таго, як у выніку такіх дзеянняў былі затрыманы тры цягнікі, адміністрацыя згадзілася выканаць адзінае патрабаванне «забастоўшчыкаў» і забяспечыла іх перавозку ў Гродна.

### ВАЙНА БЕЗ ПЕРАПЫНКУ

Праз 46 год пасля Перамогі яна працягваецца для нашых міліцыянераў. Бо сёння яны часцяком падвяргаюцца не меншай рызыцы. 21 чэрвеня вечарам участковы інспектар з Навагрудскага раёна Н. Катко ўступіў у адзінаборства з п'яным трактарыстам на дарозе недалёка ад вёскі Лешанка. І перамог: пасля стрэлаў уверх і па колах затрымаў парушальніка — рабочага Усялюбскага лясніцтва, 1947 года нараджэння.

А вось старшаму сяржанту А. Сівохіну не пашанцавала напярэдадні раніцай. Ён знаходзіўся ў складзе патруля ў машыне медвыцвярэзніка, калі на праезную частку на вуліцы Радыяльнай Мінска выбегла неўстаноўленая жанчына. Каб пазбегнуць сутыкнення, вадзіцель рэзка ўзяў у правы бок, у выніку чаго машына перакулілася — і Сівохін загінуў.

### НЕДАСПЕЛЫЯ ЯБЛЫКІ

У наш час і на іх знаходзяцца жадаючыя. 22 чэрвеня ў тры гадзіны ночы п'яны шафёр, 1970 года нараджэння згвалтаваў у калгасным садзе, што ў в. Ванілевічы Капыльскага раёна, вучаніцу 11 класа. Дзяўчына знаходзіцца ў бальніцы, гвалтаўнік затрыманы.

А 25 чэрвеня жыхары в. Крыніцы Валожынскага раёна выявілі жудасную знаходку — труп дзяўчынкі з іх вёскі, вучаніцы 1 класа, з рэзанымі ранамі.

### АБРАБАВАЛІ НАШУ ПАМЯЦЬ

На заканчэнне — яшчэ адно невясёлае паведамленне: невядомымі злачынцамі абрабаваны невялікі музей нашай газеты, які знаходзіцца ў прыёмнай. І хоць выкрадзена не такое ўжо каштоўнае — дзве вазы з гравіроўкамі і муляжы наручных гадзіннікаў (якія, відаць, зладзеі прынялі за сапраўдныя), на душы ўсё роўна сумна. Таму што гэта была наша памяць. Таму што ў наш час застаецца ўсё менш і менш святога...

У бюро дзяжурыў П. СІМАНАЎ.



Супрацьстаянне або кансенсус! Аляксандра Талочкі [БЕЛТА]
Фота Уладзіміра Мяжэвіча — [здымак зроблены ў Ашмянах].

# „Я АХРЫШЧУ КПСС!“

**У імя Айца і Сына і Святога Духа! Амінь! — сябра ўправы новай партыі, паэт Алег Бембель змірэнна перахрысціўся.**

**—Паехалі! — каюся, не надта набожна падбадзёрыла я суразмоўніка і націснула клавішу магнітафоннага запісу...**

— Беларуская хрысціянска-дэмакратычная злучнасць, створаная ў траўні 1917 г., праз паўстагоддзя пасля гвалтоўнага разбурэння — ізноў існуе! Сябрам злучнасці можа быць кожны, хто падзяляе маральна-этычныя запаветы Хрыста, хоць мо й не мае цвёрдай веры альбо канфесійнай прыналежнасці. У кіраўніцтве злучнасці мы будзем цвёрда трымацца саборнасці, заўжды памятаць словы Хрыста: «Вы ведаеце, князі народаў пануюць над імі, і вяльможы ўладараць над імі, але не так хай будзе паміж вамі. А хто хоча паміж вамі большым быць, хай будзе вам слугою. І хто хоча між вамі быць першым, хай будзе вам рабом. Бо сын чалавечы не прыйшоў, каб яму служылі, а каб паслужыць і аддаць душу сваю як выкуп за многіх».

Мы — не традыцыйная свецкая партыя, мы — свецкі працяг Хрыстовай Царквы. Свецкія партыі і наогул свецкія шляхі вырашэння праблем сённяшніх — катастрафічных, безвыходных, тупіковых, сябе вычарпалі. Злучнасць адрадзілася як альтэрнатыва ўсім свецкім партыям. Царква традыцыйна ўстрымліваецца ад удзелу ў свецкім жыцці. Сённяшнія святары ў якасці выключэння пайшлі на такое паслушэнства як дэпутацтва. БХДЗ хоча паспрыяць святарам-дэпутатам, каб яны прынялі яшчэ адно паслушэнства — дапамаглі прымірэнню свецкіх партый у нашым парламенце. Дзеля гэтага варта сфармаваць пераходны ўрад нацыянальнае згоды на чале са святаром-дэпутатам, якога назавём, напрыклад, канцлерам, і двума віцэ-канцлерамі: па эканоміцы—В. Кебіч, па сацыяльна-гуманітарнай сферы — З. Пазняк. Гэты трыумвірат за два гады мог бы падрыхтаваць новую Канстытуцыю, стабілізаваць эканоміку, заклікаўшы насельніцтва не бунтаваць, а старанна працаваць і давяраць ураду нацыянальнае згоды. У верасні 1993 г. пераходны ўрад перадаў бы ўладу новым канстытуцыйным структурам.

**— А сённяшні ўрад распусціць?**

— Так, сённяшні распусціць, на працягу лета сфармаваць пераходны. Такі прэцэдэнт вядомы зусім нядаўняй гісторыі. Архіепіскап Макарыус пад час трагічных, разломных падзей на Кіпры ўратаваў свой народ ад моцнага кровапраліцця: узяў паслушэнства і прыняў прэзідэнцкую ўладу. Якраз сённяшняя Беларусь магла б эфектыўна скарыстаць гэты прыклад.

**— Вы сапраўды думаеце, што зліццё Царквы са свецкай уладай палепшыць наша жыццё?**

— Ні ў якім разе. Гаворка ідзе толькі пра часовае паслушэнства святара. Дый для апошняга свецкая дзейнасць ня можа вяршэнстваваць над боскай службай. Таму вышэй азначаная антыкрызісная мера зойме два гады, не болей.

**— Даруйце, так і карціць спытацца, ці ведаюць Вячаслаў Францавіч і Зянон Станіслававіч, якія вы ім прымяркоўваеце пасады?**

— Пазняка я неяк пытаўся: «Ці згодзен ты, Зяноне, на такі трыумвірат? Ён толькі ўсміхнуўся ў адказ. Але ж, думаю, Зянона лягчэй будзе ўгаварыць, чым Кебіча...

... Тады Беларусь, якая знаходзіцца на мяжы каталіцкага Захаду, праваслаўнага Усходу, пратэстанцкае Поўначы, Беларусь, зарганізаваная, унутрана змірэнная можа даць прыклад усяму хрысціянскаму свету — прыклад выйсця з трагічнай для дзяржавы і народа сітуацыі. Яна стане сэрцам Хрысціянскае садружнасці нацыі. Ёсць жа, скажам, садружнасць мусульманскіх краін, гэтаксама маглі б згуртавацца і хрысціяне. Нельга забывацца і на тое, што хрысціянскія народы, быццам сярэднявечны Канстанцінопаль, абкружаныя морам нехрысцяў. Гісторыя на новым вітку, не дай Божа, ізноў трагічна паўторыцца. Аграмадныя масы людзей, узброеныя сучаснай тэхналогіяй знішчэння, якія нават дэмаграфічна ўжо перапоўнілі свае традыцыйныя абшары, могуць абрынуцца на хрысціянскія краіны, калі тыя не пераадолеюць уласныя ўнутраныя супярэчнасці. Таму хрысціянскія дэмакраты будуць спрыяць гарманічнаму далучэнню СССР да прававой, сацыяльнай, гуманітарнай і экадухоўнай прасторы НБСЕ (Нарады Бяспекі і Супрацоўніцтва Еўропы) у межах ААН.

**— Такім чынам абмежаваныя канфлікты палітычнага, нацыянальнага, эканамічнага характару зменяцца на маштабныя — веравызнальныя?**

— Хрысціянская садружнасць будзе адкрытая і для ўсіх братоў-нехрысцяў. Трагедыя ж хрысціянскага свету, асабліва хрысціянскіх дзяржаў Германіі і Расіі, якія сутыкнуліся ў сусветнай вайне, спарадзілі бальшавізм і нацызм, у тым, што яны спакусіліся палітыкай дэманічнага змагання. З антычных часоў яна прыносіць людзям толькі трагедыі. Хрыстос жа супрацьпаставіў дэманскаму гвалтоўнаму гераізму гісторыю святасці. Так і суіснуюць побач дзве гістарычныя (яны ж — астральныя) тэндэнцыі: дэманская і святая. Здолеюць хрысціяне напярэдадні двухтысячагоддзя зямнога з'яўлення Хрыста пераадолець спакусу змагання — гэта будзе проста цудам!

**— Ваш погляд на сусветную гісторыю, напэўна, уразіць нават загартаванага атэіста сваёй прапаведніцкай узнёсласцю. Усё ж перарву вашую прамову празаічным, але існым пытаннем: «Якім чынам маецца БХДЗ ажыццяўляць такую грандыёзную задуму, як стварэнне (ні многа ні мала) Хрысціянскай садружнасці нацый?».**

— Толькі шляхам не гвалтоўнага ўдасканалення. Знішчэнне былога дзеля стварэння новага — цалкам выключана. Мы — за сумоўе з усімі сіламі, за хрысціянскія адносіны да ўсіх свецкіх партый.

**— Як сама Царква ставіцца да свайго «свецкага працягу»? Ведаю з прыватных размоў — не ўсе святары вітаюць дэпутацтва духоўных асоб: так званы свецкі послух...**

— Вы маеце рацыю. Аднак, заўважце, Царква ў крытычныя моманты гісторыі заўсёды йшла на дапамогу Айчыне: як трывога — дык да Бога. Пад час Айчыннай вайны, калі нацысты былі ўжо ля Масквы, бальшавікі звярнуліся да Царквы. Яна блаславіла змаганне. Тады святароў вызвалілі з канцлагераў, далі свабоду святарскай дзейнасці. Пералом у вайне супаў з... палёгкай Царкве. Маловеры не надаюць гэтаму значэння, а вернікі разумеюць — літасць Божая павярнулася тут да акрываўленай Расіі. Сёння катастрофа ня меншая, чым вайна. Дык раней хоць прырода была здаровая. Цяпер экацыд прывёў да Арала, Чарнобыля, вынішчэння Волгі. Ад Курылаў да Балтыкі атручанае ўсё, генафонд народа падарваны, эканоміка развалена. І Царква зноў дапаможа.

**— Вашая злучнасць, хоць і своеасаблівая, але ўсё ж партыя. Нішто партыйнае, пэўне ж, ёй не чужое...**

— Адна з плыняў нашай дзейнасці — спрыяць таму, каб сацыяльна-актыўныя хрысціяне ў рамках канстытуцыйнага працэсу займалі дзяржаўныя пасады — ад нізавых да самых высокіх.

**— Але ж эканоміку, напэўна, малітвамі не паднімеш?**

— Айцец Сергій Булгакаў у свой час цудоўна распрацаваў прынцыпы гаспадарання, заснаваныя на веры, на духоўных адносінах да працы. Адсюль вынікаюць сумленне, працалюбнасць, малітоўная праца — праца, як працяг малітвы, а не як павіннасць.

**— Такая праца — найвышэйшая мэта камуністычнай ідэі...**

— Дык камунія — гэта ж саборнасць. А саборнасць ідзе ад Хрыста, але захацелі (нячысты спакусіў) пабудаваць рай зямны без Хрыста. Хрыстос жа сказаў: «Без мяне нічога не зробіце...» Чым абернецца імкненне да зямнога раю без Бога, папярэджваў яшчэ Дастаеўскі ў рамане «Бесы». Гэты правал павінен прымусіць людзей, як таго блуднага сына, што праматаў спадчыну, пакаяцца і вярнуцца да айца нябёснага. Тады, як струхлелы Лазар, наша краіна паўстане з труны.

**— Што ж, вашыя словы ды Богу ў вушы... Дарэчы, наколькі шматлікая БХДЗ?**

— Нашае сяброўства не будзе строга фіксаваным. 100 подпісаў, неабходных для рэгістрацыі, мы маем. Яны са Статутам, праграмнымі прынцыпамі і 700 рублямі ўкладкаў (зараз дзяруць!)...

**— ... нават з Хрыстовай злучнасці!**

— ... будуць скіраваныя для афіцыйнага засведчання.

**— Ці шмат сярод хрысціянскіх дэмакратаў моладзі?**

— Дзякаваць Богу — багата. Штабкватэра нашая — сапраўднае мейсца, дзе маладыя сябры ХДЗ могуць пасябравацца, шчыра пасумовіцца. Тут і спеўны гурток, і дыскусіі, і вечарыны.

**— Як Вы лічыце, што падштурхоўвае да вас маладых?**

— Адчуванне поўнай бесперспектыўнасці атэізму. Атэізм можа быць індывідуальнай трагедыяй асобнага чалавека. Атэізм жа як ідэалогія цэлага народа—духоўная катастрофа, самагубства. Дай Бог здароўіца нашай сённяшняй уладзе: яна дазволіла Царкве свабодна ўздыхнуць.

**— Але ж ёсць перакананыя атэісты не толькі з-за ідэалогіі?**

— Ведаеце, такіх мацёрых, зацятых д'яблавых сыноў я на сваім вяку сустракаў адзінкі. Нават абсалютная большасць сяброў КПСС — хрышчоныя.

**— Мо таму гэтая партыя дзесяцігоддзямі ўтрымлівае ўладу?**

— Зацятых бязбожнікаў, невылечных і непапраўных — жменька. Іх саміх трэба адправіць на пенсію, а вернікам, сябрам КПСС, ператварыць апошнюю ў Хрысціянска-сацыяльны саюз — партыю саборнага сацыялізму. Тады мы з імі можам стварыць блок ХДЗ/ХСС, як у Нямеччыне, памеркавацца з Народным фронтам на хрысціянскай аснове, перажыць на чале са святаром-канцлерам два пераходныя гады — і Беларусь стане нармальнай еўрапейскай дзяржавай.

**— Пашлюбаваліся — і годзе,**
**Чарую, каб нячысты злез:**
**Пад сонейкам Тысячагоддзя**
**Я ахрышчу КПСС!..**

**— Усё ж, мне здаецца, больш натуральна для верніка пайсці ў Царкву, чым у яе свецкі так бы мовіць сурагат.**

— Вы зноў жа падыходзіце да нас, як да традыцыйнай свецкай партыі. Безумоўна, перш трэба ісці ў Царкву. Мы ж будзем толькі спрыяць святарам (іх, да слова, катастрафічна мала) згуртоўваць грамадства вакол Царквы.

**— Да сапраўднай веры чалавека вядзе цяжкі, часам трагічны шлях. Прыліў цікавасці да Царквы павялічыў колькасць візітаў у Божы храм, але наўрад ці папоўніў рады шчырых вернікаў.**

— Вы добра сказалі — візіт у Царкву. Канешне, сапраўдная вера ёсць глыбока інтымная справа.

Кажуць, Гасподзь каго любіць, таму дасылае выпрабаванні. Гэта парадокс гісторыі, што толькі трагедыя спрыяе прарастанню чалавечага духу. Укрыжаваная на Чарнобыльскім крыжы Беларусь — мейсца, дзе людскія душы найбліжэй да Бога. Не скарыстаць гэты шанц для ўратавання душ нашых — недаравальна! Мы не павінны паўтарыць памылку, на якую спакусіў нячысты інтэлігенцыю XIX стагоддзя. Бальшавікі ў 17-м скінулі багатых. Самі сталі на мейсца зрынутай эліты, верхніх дзесяці тысяч. Нам нельга распальваць нянавісць галоднай масы супраць сённяшніх «верхніх», бо крывавае месіва, яшчэ больш жудаснае, паўторыцца. Неабходна праявіць літасць, стрымаць бунтоўныя настроі гарачых галоў.

**— Тады сустрэчнае пытанне. Вы супраць страйкаў?**

— Сапраўдныя гаспадары не страйкуюць, а працуюць і моляцца. Гэтага пакуль няма. Таму страйкі, як крайнюю выяву пратэсту, мірнага пратэсту, калі іншыя спробы плёну не даюць, лічым дапушчальнымі.

**— Што ж, дзякуй за шчырасць!**

*P.S. Трапім мы з дапамогай БХДЗ «да Бога за пазуху» ці не, хто ведае. Мяне асабіста прыцягвае адмаўленне кровапраліцця, новай грамадзянскай вайны і чарговай «карэннай ломкі». А вас?*

Алена АГІБАЛАВА,
палітаглядальнік «ЧЗ».










У афіцыйных дакументах гэта месца пад Мінскам называюць палігонам для складзіравання смецця. Некалькі дзесяткаў гектараў займае ён. Сюды вывозяць адкіды з жылых дамоў, з будпляцовак, фабрык, заводаў — тысячы тон самых разнастайных адходаў, сярод якіх можна знайсці, што пажадаеш. Трапляюцца зрэдку грошы, каштоўнасці. Але не яны — галоўны аб'ект пошукаў тых, хто не грэблівы. Чорныя і каляровыя металы, рыззё і тоны паперы, мяшкі цэменту і многа іншай карыснай сыравіны здабываюць тут «старацелі». Мясцовыя сяляне, з тых, хто не праяўляе асаблівага жадання працаваць у калгасе, збіраюць на сметніку штодзённа сотні кілаграмаў хлебных адходаў, якімі кормяць свіней і іншую жыўнасць.

Словам, сметнік Трасцянца стаў для некаторых сапраўдным Кландайкам, дзе штодзённа можна зарабляць не адну сотню (менавіта сотню!) рублёў. Праўда, сплываюць гэтыя грошы ў кішэні прыватных асоб. У руках дбайнага гаспадара смецце і вытворчыя адходы маглі б даваць гораду мільённыя прыбыткі. Аднак пакуль нікому з дзяржаўных мужоў справы да сметніку няма. Ля Трасцянца, праўда, дзейнічае завод па перапрацоўцы адходаў. Але магутнасцей яго не хапае, каб «пераварыць» усё, што выкідвае Мінск.

А пакуль сметнік не толькі не прыносіць карысці, але і наносіць шкоду навакольнаму асяроддзю. Бо змесціва кузаваў машын, якія прывозяць сюды смецце, практычна не правярае ніхто.

**НА ЗДЫМКАХ:** на гарадскім сметніку; яшчэ адзін бак хлеба — здабыча з чарговага кантэйнеравоза. Метал і рыззё са сметніка адсартаваны для здачы нарыхтоўшчыкам другаснай сыравіны.

Фота А. ТАЛОЧКІ. (БЕЛТА).

*Экалогія: будучыня, праблемы...*

Л. Тарасенка:

# «Я б не хацеў жыць у той час...»

Чалавек жорстка і безаглядна разбурае прыроду — зусім зразумела, што біясфера пачынае дзейнічаць супраць свайго губіцеля. На жаль, людзі мала ўсведамляюць, што найбольшая пагроза для чалавецтва—не пустыя паліцы ў крамах, не чэргі за вінам і нават не міжнацыянальныя спрэчкі, а змяненне клімату, якое мы назіраем ужо цяпер, забруджванне атмасферы і вады — пагрозлівы адказ прыроды на злачынную бязглуздасць яе малодшага сына.

Адзін з тых нямногіх людзей, хто па-сапраўднаму заклапочаны лёсам прыроды і чалавецтва ў ёй — народны дэпутат БССР, віцэ-прэзідэнт Беларускага экалагічнага саюза Л. Тарасенка. БЭС, якім кіруе Лявон Рыгоравіч, дастаткова паважаная ў рэспубліцы і працаздольная арганізацыя. Друк перыядычна інфармуе аб справах, поспехах і нястачах БЭСа, таму няма, мабыць, сэнсу зараз распавядаць доўга пра гэта. Скажу толькі, што апошняя буйнамаштабная акцыя, якой займаўся БЭС,— арганізацыя атрымання і дастаўкі ў пацярпелыя ад Чарнобыля раёны гуманітарнай дапамогі.

Сёння Леанід Тарасенка—наш суразмоўца.

**— Адзін заходні пісьменнік параўнаў Зямлю і чалавецтва з акварыумам, у якім жывуць жабы. Жабы плаваюць у акварыуме, ядуць, б'юцца за ежу, адкладваюць ікру, балююць, і ніхто не заўважае, што вада ў акварыуме паступова падаграецца...**

— Я б сказаў, што гэта вельмі трапнае параўнанне і ў літаральным, і ў пераносным сэнсах. А ў дадатак, людзі і самі падаграюць атмасферу. Калі спажыванне энергіі ў пераліку на аднаго жыхара застанецца на існуючым узроўні, дык праз 30—50 гадоў нас чакае глабальнае змяненне клімату, у выніку чаго добры «акраец» Еўропы апынецца пад вадой. Дадам, што праз 80—100 гадоў будуць вычарпаны асноўныя крыніцы энергіі і карысных выкапняў наогул. Карацей, я б не хацеў жыць у той час.

**— Ці ёсць у нас шанцы на выратаванне? Думаю, што вельмі і вельмі невялікія. Ведаючы становішча ў гэтай галіне, цяжка не прыйсці да высновы, што калапс адбудзецца раней, чым мы ўсе ўсвядомім небяспеку.**

— Перспектыва не з самых прыемных... Але пяройдзем да больш канкрэтных праблем, якіх у рэспубліцы больш, чым дастаткова. Ведаеце, у апошні час на фоне Чарнобыля, ўсё астатняе неяк адышло на другі план. Але гэта не значыць, на жаль, што нам няма больш аб чым клапаціцца.

**— Мяне як ураджэнку Палесся турбуе, напрыклад, лёс гэтага краю.**

— Слова «Палессе» заўжды асацыіравалася з балотамі, дрыгвой, непраходнымі лясамі. А зараз усяго гэтага — пашукаць і пашукаць. Неабсяжныя гоні палеткаў і палі на іх месцы. Але тыя, каго раней называлі «людзі на балоце», здаецца, не вельмі гэтым задаволены...

**— Палессе разглядаецца спецыялістамі як «лёгкія Еўропы». Але нейкай «разумнай» галаве не давала пакою думка аб тым, што так многа патэнцыяльных палеткаў прападае... І што ж? Закапаны ў зямлю мільярды рублёў, парушаны водна-тэмпературны баланс, ды і мэты не дасягнуты.**

— Зразумела, што БЭС катэгарычна супраць такой палітыкі. Але, шчыра казаць, рукі яшчэ не дайшлі настолькі, каб радыкальна вырашыць гэту праблему.

Да таго ж, цяжкавата змагацца з Мінска з молахам, якога ня бачыў. Карыстаючыся выпадкам, хацеў бы прапанаваць палешукам самім актыўна ўключацца ў справу.

**— Да нас у рэдакцыю прыходзяць лісты ад жыхароў Драгічына, у якіх людзі з абурэннем пішуць аб будаўніцтве там біяхімічнага камбіната...**

— Што да ДБК, то гэтай праблемай мы займаліся яшчэ паўтара года таму назад. Здаецца, пры вырашэнні яго лёсу не ў апошнюю чаргу былі ўлічаны і нашы меркаванні. Наколькі я валодаю інфармацыяй, у Драгічыне будуць выпускацца шпрыцы, а не антыбіётыкі для свойскіх жывёл, як планавалася раней (і большую лухту цяжка прыдумаць).

**— Я ведаю, што вы зараз займаецеся ўсім тым, што звязана з Белавежскай пушчай.**

— Белавежская пушча чакае вырашэння свайго лёсу даўно. Я асабіста нават лічу, што павінна быць створана асобная камісія, якая б на кампетэнтным узроўні вырашыла пытанне аб статусе і будучым Белавежскай пушчы. Ёсць прапановыператварыць яе ў запаведнік, нацыянальны парк. Мне асабіста падабаецца ідэя стварыць нацыянальны парк на частцы пушчы, а другую разам з паласой калямежнай «нейтральнай зоны» ператварыць у запаведнік.

**— Апошняе пытанне да вас, як да дэпутата. Парламент зараз заняты палітычнымі і эканамічнымі праблемамі. Але, здаецца, усё гэта хутка страціць усялякі сэнс, бо небяспека вымірання чалавека як біялагічнага віду ўсё больш рэальная.**

— Фатальнай памылкай з'яўляецца маруднасць вырашэння пытанняў у галіне адукацыі,, культуры, медыцыны. Будзем мець здаровага ўмыслова і фізічна, культурнага чалавека—вырашым усе праблемы. У тым ліку, і экалагічныя.

Пры ўсім тым не магу не адзначыць, што ў рэспубліцы пэўныя зрухі ёсць. Папершае, новы ўрад і яго старшыня больш прыхільна, з разуменнем ставяцца да вырашэння экалагічных праблем. Нам удалося «працягнуць» спецыяліста-эколага на пасаду старшыні Дзяржкамітэта па экалогіі — А. М. Дарафеева. Станоўчыя вынікі гэтага ўжо бачны.

Вельмі спадзяюся на экалагічную камісію ВС, якую ўзначальвае Б. П. Савіцкі. У цяперашні час вядзецца работа па стварэнню Экалагічнага кодэкса. Нарэшце ахова навакольнага асяроддзя будзе пастаўлена на сур'ёзную аснову.

Гутарыла Н. БАБІНА.

# НАРАДЖЭННЕ СЯМІДЗЕСЯЦІГАДОВАГА

**ЦЯПЕР КАМСАМОЛ МАЕ ЮРЫДЫЧНАЕ ПРАВА НА ІСНАВАННЕ**

**Сем дзесяцігоддзяў ён існаваў без гэтага права. Сем дзесяцігоддзяў прымаў непасрэдны ўдзел у жыцці дзяржавы. Сем дзесяцігоддзяў праблема яго існавання не падвяргалася нават ніякаму сумненню. Цяпер камсамол мае юрыдычнае права БЫЦЬ. 20 чэрвеня 1991 года ў Міністэрстве юстыцыі першы сакратар ЦК ЛКСМБ Аляксей Крыўдэнка атрымаў з рук Леаніда Андрэевіча Дашука, міністра юстыцыі, пасведчанне аб рэгістрацыі грамадскага аб'яднання, якое носіць назву Ленінскі Камуністычны Саюз Моладзі Беларусі.**


МИНИСТЕРСТВО ЮСТИЦИИ БССР

СВИДЕТЕЛЬСТВО
О РЕГИСТРАЦИИ УСТАВА
ОБЩЕСТВЕННОГО ОБЪЕДИНЕНИЯ

18 июня 1991 г.

№ 109

Название объединения Ленинский Коммунистический Союз Молодёжи Белоруссии

Вид объединения республиканское

Руководящий орган объединения Центральный Комитет ЛКСМБ, г. Минск,

адрес ул. К. Маркса, 40

Основные цели деятельности Создание условий для свободного развития молодёжи, раскрытие её творческого потенциала, защита и реализация интересов и прав членов организации, содействие созданию гуманного демократического общества

Министр юстиции Л. А. ДАШУК

Вось табе, бабка, і Юр'еў дзень! Столькі часу ў Савецкай улады не знайшлося некалькіх хвілін, каб вызначыць дэ-юрэ тое, што існавала дэ-факта, ды яшчэ як існавала! Мы не будзем пець дыфірамбы арганізацыі, якая належыць ужо гісторыі. Сапраўды, палітычная арганізацыя моладзі — камсамол — саступіла сваё месца арганізацыі сацыяльнага накірунку. Назва засталася. Сацыялістычны выбар застаўся. Знікла іншае — манаполія на моладзь.

Думаецца, нашым чытачам будзе цікава даведацца, што на палітычнай арэне Беларусі зарэгістраваны на сённяшні дзень 4 партыі: Аб'яднаная дэмакратычная, Камуністычная партыя Беларусі, Беларуская Грамада і Сялянская партыя. На падыходзе — НДПБ. Вы можаце спытаць: няўжо да гэтага часу не зарэгістраваны БНФ? Зарэгістраваны. Пасведчанне аб рэгістрацыі ЛКСМБ мае нумар 109, аналагічны дакумент, выдадзены прадстаўнікам Беларускага Народнага Фронта, — 110... Мы папрасілі перад цырымоніяй уручэння пасведчання аб рэгістрацыі беларускага камсамола адказаць на нашы пытанні **Уладзіміра Фёдаравіча Бандарэнку,** начальніка аддзела грамадскіх аб'яднанняў Мінюста БССР.

**— Уладзімір Фёдаравіч, ці ёсць зараз у Беларусі яшчэ якія-небудзь маладзёжныя арганізацыі?**

— Арганізацый такога шырокага плана, як ЛКСМБ, няма. Ды і ўвогуле трэба адрозніваць тэрмін «арганізацыя» ад тэрміна «аб'яднанне». Любая палітычная партыя ёсць менавіта аб'яднанне. А наконт маладзёжных аб'яднанняў, на дадзены момант зарэгістраваны толькі Нэкст-Стоп.

**— Як, на Вашу думку, рэгістрацыя грамадскіх аб'яднанняў уносіць штонебудзь у пабудову прававой дзяржавы?**

— А як жа! Існаваўшае раней становішча ставіла па-за крытыкай усе структуры, якія існавалі ў дзяржаве, і не давала магчымасці адміраць устарэлым органам, установам, аб'яднанням. Цяпер жа новыя грамадскія аб'яднанні, створаныя менавіта на добраахвотнай аснове, павінны выцесніць тыя дзяржаўныя структуры, што на працягу гадоў сталі лішнім грузам. Менавіта цяпер, у наш час закладваецца ўсеагульны прынцып роўнасці — роўнасці перад законам. А закон трэба выконваць...

**— А чым Вас зацікавіў Статут камсамола Беларусі?**

— Ведаеце, мы непрадузята разглядаем кожны дакумент, кожны Статут, звяртаючы ўвагу толькі на адпаведнасць патрабаванням закона. Ваш жа Статут цікавы менавіта шырокім ахопам усіх бакоў развіцця моладзі. Ахоп інтарэсаў яе, памкненняў. Вы ставіце мэтай абараніць гэтую самую моладзь. У добры час!

Міністр юстыцыі затрымліваўся на сесіі Вярхоўнага Савета, але да яго прыбыцця адбылася цікавая размова, у якой прынялі ўдзел сакратары ЦК ЛКСМБ, народныя дэпутаты Беларусі, а таксама Уладзімір Фёдаравіч Бандарэнка. Словы прадстаўніка Міністэрства юстыцыі ў пэўным сэнсе расставілі шмат кропак над «і». Ён растлумачыў, што на гэтае міністэрства ўскладзены абавязак не толькі рэгістраваць, але і кантраляваць дзейнасць грамадскіх аб'яднанняў, сачыць за тым, каб выконваўся Статут, каб не было ніякіх парушэнняў закона, ніякіх прывілей той ці іншай партыі ці арганізацыі. **У РОЎНЫМ СПАБОРНІЦТВЕ, У РОЎНАЙ БАРАЦЬБЕ ЗА ІНТАРЭСЫ ЧАЛАВЕКА — ПЕРАМАГАЦЬ.** Менавіта такі дэвіз, на думку Уладзіміра Фёдаравіча, павінен быць у кожнага грамадскага аб'яднання.

Адчыніліся дзверы, у кабінет увайшоў міністр юстыцыі Беларусі. Заняўшы месца на чале стала, ён звярнуўся да прысутных:

**— Нарэшце, мы дачакаліся дня, калі вырашылася пытанне, якое Савецкая ўлада не магла вырашыць цэлыя 70 гадоў. Я лічу, што рэгістрацыя — важная падзея ў жыцці камсамола. Не трэба яго ачарняц Вельмі шмат на яго рахунку сапраўдных, карысных спраў, якія паслужылі людзям. Гэта і будоўлі, і ліквідацыя непісьменнасці, а колькі шчырых працаўнікоў, простых шчырых людзей выхаваў камсамол! У перыяд росквіту бюракратычнай сістэмы роля камсамола паменшылася. Але — адзнака дадзена, і меры вызначаны для таго, каб ЛКСМБ заняў менавіта сваё месца ў грамадстве.**

Міністр юстыцыі ўручае пасведчанне аб рэгістрацыі першаму сакратару ЦК ЛКСМБ Аляксею Крыўдэнку. Ад імя тых мільёнаў камсамольцаў, што ядналіся адной мэтай — зрабіць жыццё чалавечае лепшым, ад імя тых, хто шчыра, не зважаючы на кар'еру, на дабрабыт уласны, змагаўся супраць разрухі, супраць цемры непісьменнасці, хто ўсе сілы аддаваў чалавецтву, выступіў Аляксей Крыўдэнка.

**— Сённяшні дзень асаблівы для нас, камсамольцаў, для ўсёй моладзі рэспублікі. Камсамол зараз гэта не толькі 800 тысяч чалавек, але і неад'емная частка гісторыі, неад'емная частка ўзлётаў і падзенняў нашага народа. Вядома, не ўсё, што было ў дзейнасці камсамола раней, мы павінны захаваць. Мы пакінем лепшае, распрацуем новае, зыходзячы з сітуацыі, якая склалася ў грамадстве. Толькі так мы зможам ісці наперад. Камсамол стаў дэмакратычнай арганізацыяй. Метады нашай работы зараз — толькі перакананне, тлумачэнне моладзі ўсіх складанасцей нашага часу. Камсамол зараз адзіная арганізацыя, якая займаецца моладдзю, яе праблемамі і асноўная мэта яе — дапамагчы моладзі перайсці парог рынку.**

**Нас чакаюць цяжкія выпрабаванні. Гэта і беспрацоўе, і знішчэнне ўсіх маральных каштоўнасцей. У гэтых умовах нам застаецца адно — дзейнічаць у сацыяльным плане, у імя жыцця, у імя дабрабыту, у імя таго, каб чалавек, малады чалавек, здолеў знайсці месца ў жыцці. Мы павінны дапамагчы дзяржаве стварыць дзяржаўную маладзёжную структуру. Калі дзяржава не возьмецца за гэта, мы можам атрымаць вельмі хілае і ў фізічным, і ў маральным плане пакаленне. Зараз у нас няма праціўнікаў у асяроддзі моладзі. Мы імкнёмся да супрацоўніцтва, імкнёмся ўзяць у іншых арганізацыях усё лепшае, усё рацыянальнае, што ёсць у іх. Імкнёмся вярнуць беларускай моладзі тое беларускае, што страчана за гады...**

Святыя словы. Мы абараняем камсамол не таму, што гэта заснавальнік нашай газеты. Мы не сляпыя. Чырваназменаўцы глядзяць на жыццё глыбока, імкнуцца спасцігнуць тое, што можна палічыць галоўным не толькі ў наш час, але і ў вечнасці. Можа, я і не маю права казаць ад імя ўсіх, але проста ёсць нагода, каб выказацца, каб сказаць некалькі слоў пра арганізацыю, якую стварыла не сістэма, а сама моладзь, моладзь, якая бачыла лепшае жыццё так блізка...

Ім было лягчэй, тым першым, хто верыў свята ў неўміручасць ідэі. Можа яны і не ведалі таго, што схавана ў тоўстых тамах вучэння Маркса. Але яны верылі. І гэта вера ім дапамагла. Можа яны і былі ў чымсьці фанатыкамі, але яны пабудавалі дзяржаву, якая выстаяла ў стольких войнах! Пабудавалі і ляглі ў 37-м у вечны ложак. Тады шчырыя не жылі. Яны паміралі. Некаторыя загортвалі сябе ў кокан накшталт вусеня, па прынцыпу «нічога не бачу, нічога не чую». Тыя выжылі. Але з кокана не выйшлі. Матылькоў з іх не атрымалася.



Ліхалецце. Застой. Як яшчэ можна назваць часы, калі ўсім было ўсё роўна... Ліхалецце атрымалася таму, што чалавек зняверыўся. Зняверылася моладзь, не бачачы нават у аддаленай будучыні ніякай перспектывы. Зняверылася яна і ў камсамоле, добра бачачы, што ў яго, як і ў партыю, ідуць дзеля кар'еры. Гэта зараз на камсамольскіх пасадах нічога, акрамя шышак, атрымаць немагчыма. Камсамол лаяць усе, каму не лянота. Але ягоныя праціўнікі забываюць пра тое, што вакууму ў грамадстве быць не павінна. Ён часцей за ўсё запаўняецца сіламі рэакцыі, прыхільнікамі цвёрдай рукі. Так было ў 33-м годзе ў Германіі. Спартакаўская моладзь саступіла месца Гітлерюгенду. Даруй мне, Божа, за такія паралелі, але няўжо не бачна прамая небяспека захопу ўлады людзьмі, для каго слова «сумленне» не болей чым пусты гук? Хто ж яны? І крайне правыя і крайне левыя. Я аднолькава не пераношу ні тых, ні другіх. Экстрэмізм камуністычны, як экстрэмізм нацыяналістычны нясуць не стварэнне, а разбурэнне.

У кожнага чалавека свой шлях. Чалавеку загадаць немагчыма. Адзіны камандзір — ягоны лёс. Я не фаталіст, я веру ў вечнае змаганне, у вечную барацьбу дабра са злом. Няма абсалютнага дабра і абсалютнага зла. У кожнай з'яве, у кожнай падзеі дабро і зло злучаны непарыўным ланцугом. І самае вялікае мастацтва на свеце — навучыцца вымяраць колькасць дабра і колькасць зла і выбіраць адпаведна з гэтым свой шлях. На мой погляд, камсамол Беларусі зрабіў вельмі слушны крок — амаль адмовіўся ад палітыкі. Іншыя лічаць гэта памылкай. Але дзе вы бачылі палітыка, які сапраўды клапоціцца пра свой народ? Можа гэта і максімалізм. Але на маіх вачах літаральна за некалькі месяцаў змяняўся чалавек, атрымаўшы палітычную ўладу. Адмовіцца ад палітыкі дзеля інтарэсаў моладзі можа не кожны. І менавіта таму можна лічыць сапраўды значнай падзеяй набыццё камсамолам цвёрдай юрыдычнай глебы.

**Алесь ПАЛЫНСКІ.**

## Бумеранг

# „Вялікі іспанскі пісьменнік Сэрвантэс быў з Іспаніі...“



### Роздум пасля экзаменаў, або Пераказ на вольную тэму

*Раз-пораз кабінет, у якім сабраліся настаўнікі, скаланаюць выбухі. Вайна — не вайна, так, праверка экзаменацыйных работ. І выбухі смеху. Горка, магчыма, але ўсё роўна... смешна. Ну як тут стрымацца? «Вялікі іспанскі пісьменнік Сэрвантэс быў з Іспаніі». «І вось цяпер ён у турме ў адпачынку». «Ён узяў пяро і накідаў свой твар на сцяне». «Ён падмаляваў сабе шлем і панцыр. Атрымаўся рыцар». «Ён сядзеў на муле ў шлемападобным збудаванні».*

Але напісалі гэта твае вучні, і невядома, смяяцца тут трэба ці плакаць. Памылак пазбегнуць было цяжка, лічыць настаўніца рускай мовы і літаратуры 147 мінскай школы Наталля Уладзіміраўна Шчарбянок. Чаму? Ды яны ўжо былі закладзены ў тым тэксце, які далі для пераказу ў дзевятым класе, — «Цяжкі лёс», пра М. Сэрвантэса. «Мы выпраўляем дзецям памылкі, а яны нам кніжачку паказваюць, маўляў, там так напісана»,—і Наталля Уладзіміраўна кладзе на стол «Зборнік нарматыўных дакументаў Міністэрства народнай адукацыі БССР № 4 за 1991 год, які ўтрымлівае тэксты пераказаў для дзевятага і дыктовак для адзінаццатага класаў. Дарэчы, невядома, якім чынам, але зборнік, прызначаны выключна для настаўнікаў, меўся ў кожным класе. І не ў адзіным экземпляры. Час навукова-тэхнічнага прагрэсу і дзейнасці кааператараў... Куды толькі ён ні пранік! Што ў параўнанні з ім «шпоры» з сачыненнямі, якімі «звінелі» класы ў мае школьныя гады! Лепшыя сачыненні тыражаваліся, адздымаліся на карткі, і ўзброены імі экзамен здаваў нават вучань з сумніцельнымі здольнасцямі.

Дарэчы, хацелася б пацікавіцца, чаму сачыненне ў адзінаццатым цяпер замянілі дыктоўкай? Хіба ў выпускнікоў знікла патрэбнасць разважаць і мець уласныя думкі? Бо не ўсе ж карысталіся гатовымі «шпорамі», а каб напісаць свае, трэба ж і ў галаве нешта мець...

Але вернемся да зборніка. Тэксты сюды адабраны невядома па якому прынцыпу. З «Комсомольской правды», «Маладзёжнага календара». А хто такія В. Лідзін і В. Снегіроў? Хіба мала цікавых і вядомых аўтараў? А якая багатая руская класіка! Навошта тады даваць у дык лепей замежных пісьменнікаў, а беларускіх даваць у арыгінале. Да таго ж апрацаваны тэкст зусім неталенавіта. Пра памылкі тут ужо было сказана. Шмат безгустоўнасці і фальшу. А дзеці ж найбольш тонка адчуваюць гэта — і ў літаратуры, і ў жыцці. А чаго вартыя лжэвыхаваўчыя тэксты накшталт «Двух шынялёў»! Навошта намагацца ўкласці ідэалогію, выхаваўчыя моманты нават ва ўрыўкі для пераказу. Нічога, акрамя агіды да прадмета, гэта не выкліча. А яшчэ непаразуменне: няўжо наш разумны настаўнік успрымае ўсё ўсур'ёз? Ён жа сам прывіваў нам густ да слова, вучыў пачуццю стылю, разважанням, правілам, у рэшце рэшт, гаворыць Наталля Уладзіміраўна, і я з ёй згаджаюся. Бо бачу тэксты з памылкамі, таўталогіяй, штампамі накшталт «худзенькія хлапечыя плечы», «парахавым дымам сапраўднага бою», «парыў ветру зваліў яго з ног». Не магу ўтрымацца, каб не назваць «творчы» калектыў, які працаваў над зборнікам. Рэдкалегія: М. М. Круглей (старшыня), В. І. Стражаў (намеснік старшыні), У. Ф. Валадзько, К. А. Капцэвіч, Т. М. Карасцялёза, Л. Я. Кірылюк, Р. І. Кокгыш. Рэдактар — І. Я. Лук'янчык. Няхай школьна-літаратурная рэспубліка ведае сваіх герояў.



*А дзеці зусім невінаватыя ў сваёй непісьменнасці, упэўнена настаўніца. Усё тлумачыцца нішчымніцай нашай народнай адукацыі. «Мы бедныя, як царкоўныя мышы. Многія педагогі трымаюцца на адным толькі энтузіязме. Школу пакідаюць таленавітыя, пакідаюць мужчыны — на настаўніцкую зарплату не «разгонішся». Быў у нас цудоўны чалавек, матэматык Аляксандр Іванавіч Сташынскі — дагэтуль дзеці па ім сумуюць, запрашаюць на вечары», — успамінае Наталля Уладзіміраўна і працягвае: «Школу пакінуў, бо трэба ж сям'ю карміць».*

*«Смешна сказаць, дзейнічаем дзедаўскім метадам. Увесь свет забыўся, калі на камп'ютэры перайшоў, а мы —быццам арцель «Марная праца». Рэжам, клеім, пішам карткі. Метадычкі «ўстарэлі»? Распрацоўваем методыкі самі», — настаўніца не скардзіцца, не. Прывыкла. Яна паказвае мне пытанне ў падручніку: «Адзначце моцныя і слабыя бакі экранізацыі твораў М. Шолахава». А як весці гаворку пра экранізацыю, калі дзеці іх не бачылі? Адзіны кінавед, які абслугоўвае школы, загружаны так, што не даб'ешся, каб тваю школу наведаў.*

Дзяцей жа «на халяву» да прадмета не прывабіш. Хаця і разумеюць усе, што літаратура — рэч патрэбная. Ды каб болей мелі часу — пачытаць, падрыхтавацца... Сюды ж дадаецца агульная загружанасць.

*«Вось яны прыходзяць да мяне на 5—6 урок, пасля фізікі ці хіміі — і нічога не кемяць. Калі прымушаеш думаць, «галава баліць». А дадайце сюды вялікія класы — па 35 чалавек. Цяжка сканцэнтравацца, засяродзіць увагу... Вынікі сумныя. Адсутнасць у дзяцей вобразнага мыслення, звязнай гаворкі. Дрэнна ведаюць тэксты. Блытаюць назвы, прозвішчы. Мой дзед скончыў два класы царкоўна-прыходскай школы, дык Някрасава на памяць вялікімі ўрыўкамі цытаваў. А цяпер ёсць вучні, якія нават імя пісьменніка з цяжкасцю могуць назваць!»*

Сваю «чорную справу» тут робяць падручнікі, моцна наперчаныя штампамі. Магчыма, іх складалі непрафесіяналы, «ціхія троечнікі»? Шмат злосці ў творчых настаўнікаў на шэрасць і нуднасць «Русской советской литературы» пад рэдакцыяй Кавалёвай. Тут усё дзейнічае супраць прадмета — пачынаючы ад змрочнага афармлення і канчаючы не менш цёмным зместам. Вось толькі дзіву даешся, чаму нават тыя таленавітыя адзінкі кніжак, якія ўжо ёсць і карыстаюцца попытам, днём з агнём не знойдзеш. Напрыклад, чаму высока ацэнены настаўнікамі падручнік для 9-х класаў пад рэдакцыяй Дзмітрыя Ліхачова быў выдадзены ў 1984 годзе мізэрным тыражом і больш не перавыдаецца? Чаму цікавыя аўтары і сапраўдныя вучоныя, за рэдкім выключэннем, не ўдзельнічаюць у стварэнні падручнікаў? Вывад напрошваецца сам: у гэтым не зацікаўлены міністэрскія чыноўнікі, якія маюць добры «кавалак» ад перавыдання асабістых кніг. А вось хто зацікаўлены ў тым, каб галовы дзяцей забіваліся штампамі і канцыляршчынай?! Каб развучыліся яны думаць, ператварыліся ў «вінцікаў», абяздухоўленых выканаўцаў. Вось над чым трэба задумацца!

Настаўнік ад імя грамадства ўваходзіць у клас. І ад імя грамадства ён адказвае перад дзецьмі за лжывыя веды, амаральныя ісціны, сляпую веру, рабскую падпарадкаванасць. За той сурагат для падлетка, які здольны выхаваць халопа і раба, а не інтэлігента, асобу з пачуццём уласнай годнасці.

*«Мяне вельмі турбуе, — гаворыць Шчарбянок, — што руская літаратура хутка апынецца ў апале. Беларусізацыя, вы кажаце? Але можа так здарыцца, што дзеці не будуць ведаць ні той, ні другой мовы, ні той, ні другой літаратуры. Гэта ж такі пласт культур! Трэба быць дальнабачным і ні ў якім разе колькасць гадзін, адведзеных пад рускую мову, не скарачаць. Хаця і цяпер іх не хапае. У праграму ўвялі такіх аўтараў, як Булгакаў, Платонаў, Пастарнак, Ахматава. Але далі на вывучэнне іх творчасці мізэрную колькасць гадзін. Ну, параўнайце: на лірыку Маякоўскага — 14 гадзін, на лірыку Пастарнака — дзве... Не, я не за тое, каб не вывучаць Маякоўскага. Каб паказаць працэсы, якія адбываліся ў літаратуры, трэба чытаць усё. Нават «Пятра І» Аляксея Талстога, якога выкінулі з праграмы. Лічу, дарма. Трэба гаварыць і пра Мікалая Астроўскага, якога ператварылі ў ікону, і пра Аляксея Талстога, пра Маякоўскага і Шолахава. Мае вучні не вырастуць цынікамі, калі з імі паводзіць сябе на роўных. Калі ім не хлусіць. На жаль, не хапае часу на пазакласнае чытанне. А ўвогуле зазірніце ў бібліятэкі. Чытаюць менш. Ляжаць О. Генры, Дэфо, Стывенсан, Распуцін. Магчыма ёсць дома? А магчыма з-за непрывабнага выгляду. Кнігі на газетнай паперы, някідкія, у мяккіх вокладках. Ёсць у нас у школе ідэя працаваць па эксперыментальнай праграме, сюды ўваходзіць вывучэнне творчасці Цютчава, Фета, Ганчарова, Ляскова... Гэта нармальна, і адукаваны чалавек проста не можа абмінаць гэтыя глыбы рускай класікі. Мы ўжо спрабавалі, адкрывалі літаратурны клас. Але сюды патрэбны спецыяльны падбор людзей, зацікаўленых, здольных на глыбокія даследаванні. Патрэбна моцная матэрыяльная база. Пакуль жа, на жаль, пахваліцца багаццем не можам. Будзем чакаць лепшых часоў!»*

*«Якія літаратурныя густы ў маіх вучняў?»,—паўтарае за мной пытанне Наталля Уладзіміраўна і тут жа адказвае: «Сугучным часу лічаць Дастаеўскага. Многія яго вельмі любяць. Заўсёды вечныя Пушкін і Лермантаў, актуальны Чэхаў. А вось «Што рабіць?» «не любяць», «Вайну і мір» не дачытваюць да канца... Увогуле, яны інфармацыйна развітыя, нахапаныя. І прымаюць літаратуру высокамастацкую, нетэндэнцыйную. Таму зразумела, што многія тэксты са зборніка выклікаюць у іх усмешкі».*

Скончаны экзамены. Вывешаны адзнакі. Ля настаўніцкай на стэндзе — доўгі спісаны аркуш паперы, «абмылачкі» з пераказаў, якія я прыводзіла напачатку. Пасмейцеся, вучні! Задумайцеся, настаўнікі!

**Наталля ПЛЫТКЕВІЧ,**
**аглядальнік**
**па праблемах**
**народнай адукацыі.**
**Фота С. Плыткевіча.**

*Каменны летапіс*

# Гісторыя старога маёнтка

**Зусім выпадкова закінуў мяне сюды, у далёкую вёсачку Куль, што ў Стаўбцоўскім раёне, нейкі добры рок. Даў магчымасць паблукаць па таямнічых руінах з чырвонай цэглы, крануць рукамі іх стогадовую кладку, з якой непазбежна, як час у пясочным гадзінніку, сыпалася адсырэлая цагляная крошка. Убачыць скасабочаныя дрэвы, што выраслі ў былых прасторных пакоях, і дзе зараз назбіраліся кучы бруду. І ўжо як зусім неверагодны падарунак лёсу — сустрэцца з гаспадаром некалі велічнага маёнтка.**

Завуць яго Альфонс Антонавіч Лямбовіч. Дзед і бацька яго (як і ён сам) былі звычайнымі сялянамі — працаўнікамі-хлебаробамі.

Маёнтак, фасад якога, пазяхаючы вялізнымі дзіркамі, пазірае ў вокны цяперашняй хаты разам з 14 гектарамі саду і такой жа плошчай ворнай зямлі, быў набыты яго бацькам і дзядзькам Паўлам у 1932 годзе. Наогул, каб не дзядзька, наўрад ці ўзнікла б у Лямбовічаў патрэба ў гэтым маёнтку. Справа ў тым, што Павел працаваў у Амерыцы. Меў там добры заробак і, паднакапіўшы крыху грошай, вырашыў вярнуцца на радзіму. Марыў купіць свой дом, завесці гаспадарку. Для гэтай справы і выслаў брату 40 тысяч польскіх злотых. Але сам так і не ўбачыў ні радзімы, ні купленай сядзібы. Спачатку нешта трымала, а потым ужо было немагчыма — пачалася вайна. І зараз родным нічога невядома пра лёс дзядзькі Паўла.

Да Лямбовічаў маёнтак належаў многім. На сцяне яго з даўняга часу была прымацавана шыльда «Палац пані Пятровай» — багатай памешчыцы, ва ўладанні якой было яшчэ не меней за 20 маёнткаў у Івянцы, Хатаве і іншых месцах. Застаўся гэты надпіс і тады, калі будынак перайшоў да Міхаіла Радзевіча, і потым, калі быў ім аддадзены разам з садам і зямлёй у пасаг адной са сваіх дачок.

Сам Міхаіл Радзевіч быў царскім суддзёй. Зямля, маёнткі і іншая маёмасць былі атрыманы ім за сумленную службу.

Я сядзела на цэментаваных прыступках новай хаты і зачаравана слухала, як гучаць у млосным, пераддаждлівым паветры нязвыклыя для слыху словы аб нечым далёкім, забытым і ніколі не бачаным. Гучалі і адраджалі гэтыя мёртвыя руіны векавой гісторыі.

Колькі раз марыла я сустрэцца з гаспадаром якога-небудзь, хоць самага сціплага і несамавітага маёнтка! І вось ён сядзіць перада мною. Не, не адукаваны інтэлектуал-эмігрант з рускага зарубежжа ў чорным смокінгу з «бабачкай», як уяўлялася некалі. А просты сялянскі мужык, што некалі насіў кляймо «сына кулака».

Кулака... Зараз горка і балюча ўспамінаць пра гэты час. А тым больш бачыць і чуць боль жывой ахвяры выканання некалі бясспрэчных рашэнняў, а зараз — сведкі пераасэнсоўвання трагічна сыгранай кіруючай ролі партыі. І міжволі набягае пытанне. Учора — кулак. Сёння — гаспадар. А заўтра?..

Заўтра застаецца невядомым. А ўчора было прапісной ісцінай тое, што сям'і, якая жыве ў былым панскім маёнтку, трымае 2 коней, 6 кароў, 2—3 падцёлкі, 20 свіней ды яшчэ наймае парабка і служанку, дыягназ інакшы, чым «кулацкая», не паставіш. (Нягледзячы на тое, што ў сям'і гэтай пяць мужыкоў: бацька, яго брат і трое сыноў — Альфонс, Мар'ян і Іосіф). І іншы сродак «лячэння» не знойдзеш як «раскулачыць».

На шчасце, такі лёс не напаткаў Лямбовічаў. Заходняя Беларусь была вызвалена з-пад улады Польшчы толькі ў верасні 1939 года. Кіраўніцтва рэспублікі асабіста не завіхалася ў раскулачванні сялян. Ды і, наогул, за два гады Савецкай улады ў гэтым далёкім і глухім краі было зроблена не так шмат памылак. Не паспелі... Запыніла вайна. Менавіта так — запыніла. Бо, як высветлілася пасля вайны, вывезці тутэйшых «кулакоў» (Лямбовічаў, Бандарэвічаў) планавалася на 22 чэрвеня... і, як ні абсурдна гэта, але з вуснаў зрываецца — пашанцавала.

За тыя восем гадоў, што пражылі Лямбовічы пры Польшчы, сталі яны сапраўднымі гаспадарамі. Запушчаныя 14 гектараў былога панскага саду адрадзілі ў 20 гектараў новага, пладаноснага. Калі здавалі яны свой сад у арэнду яўрэям, то за чатыры гады мелі 20 тысяч прыбытку. Ды і арандатары (кажучы сучаснай мовай) у страце не заставаліся таму, што вазілі садавіну на продаж нават у Варшаву. І, канешне, балюча было адрачыся ад усяго, што гадавалася і нажывалася гадамі, пялегавалася сваімі рукамі. А потым бачыць, што прыходзіць у занапад на тваіх вачах зямля, якой ты некалі аддаваў і зараз мог бы аддаць і сілы, і душу. Балюча...

Мне даўно здавалася, што для жыхароў Заходняй Беларусі жыццё бачыцца ў двух вымярэннях: не «пад», а пры Польшчы і пасля. Зараз я ў гэтым цвёрда пераканалася.

Мне раптам здалося, што, напэўна, дзіўна ранейшым гаспадарам назіраць, якая вялікая колькасць «мужей учёных» выдумвае зараз законы аб зямлі. А якія тут могуць быць законы? Закон адзін — самы просты і самы зямны: любіць зямлю, бачыць у ёй (а не ў прадуктовых магазінах) сваю карміцельку. Тады і працаваць — гаспадарыць на зямлі навучышся, і сумленне не дазволіць яго парушыць.

Бо цяперашнія мудрагелістыя артыкулы ўсё роўна не даюць ніякіх гарантый. Чалавек сумленны пры любой уладзе і законе такім і застанецца. А той, хто заўсёды шукае шчыліну для лёгкага жыцця, знойдзе, як абысці і цяперашнія вымучаныя артыкулы. А гаспадарамі... Гаспадарамі яны не шмат каго зробяць.

Зараз Альфонс Антонавіч жыве ў дыхтоўнай драўлянай хаце, якая была пабудавана ў 1938 годзе. Ад сырасці цагляных сцен, халоднай падлогі маёнтка бацька пачаў хварэць і прыйшлося пабудаваць звычайную хату. І праўду кажуць людзі: няма ліха без дабра.

Бо што я ні перадумала ў час размовы аб лёсе маёнтка, але такая думка ніколі не прыйшла мне ў галаву. Такога вар'яцтва не чакала я ад тых, каму таксама належыць наша беларуская спадчына і гэтая маленькая гісторыя.

Велічны будынак і невялічкую каплічку, якую наведваў увесь вясковы народ Куля, спалілі партызаны. У 1943 годзе. Быццам бы тут, у гэтых будынках, будуць трымаць абарону фашысты. Я не разбіраюся ў ваеннай справе, але якую абарону можна трымаць у гэтым аддаленым ад чыгуначных і вялікіх шашэйных дарог куточку, дзе няма ні мастоў, ні вялікіх рэчак, дзе вакол такая цішыня, спакой і прыгажосць, што, здаецца, і вайны тут ніколі не было. Але, не. Была...

З дачкой Альфонса Антонавіча крочым мы вузкай сцяжынкай у абыход да старой каплічкі.

— Некалі тут была алея ружаў. Самых сапраўдных, якія зараз прадаюць на кветкавых базарах. Вялікія, ярка-бардовыя. Алея ішла ад гэтых высачэзных калон параднага ўваходу маёнтка прама да самай капліччкі. Капліччка — невялічкі божы храм, куды вякамі неслі людзі свае радасці, засмучэнні і грахі, зараз стаяла перада мною і як бы здзіўлялася нечаканым наведвальнікам.

Чатыры напалову разбураныя сцяны. Роспачныя перакрыжаванні абваленых бэлек. Надпісы на сценах. «Наш директор дома — Павлов».

— Пасля вайны ў цяперашнім доме-інтэрнаце для інвалідаў быў дзіцячы дом. Дзетдомаўцы лазілі сюды, гулялі ў гэтых сценах. І што казаць, хіба пасляваенны падлетак, які бачыў і не такое, будзе цурацца згніўшых астанкаў?.. Дзеці раскопвалі магілы, даставалі адтуль залатыя пярсцёнкі, зубы, пазалочаныя крыжы.

Тут ужо не засталося нічога святога... нават пад зямлёй...

І вось толькі зараз, пасля доўгіх дзесяцігоддзяў непрытомнасці прыходзім мы ў сябе і вяртаемся да сваёй гісторыі, шукаем аслабленыя карані, каб звязацца з роднай зямлёю і жыць на ёй гаспадарамі. Але шмат чаго ўжо страчана і назаўсёды. Страчана святасць і чысціня былой веры, былога жыцця.

І дай Бог нарадзіць наша жыццё нанава, каб жыць у ім можна было чалавекам і гаспадаром.

**В. УЛЕВІЧ,**
**студэнтка факультэта журналістыкі БДУ імя У. І. Леніна.**



Не думала Дар'я Ананьеўна Бельская пятнаццаць год таму, што першая спроба інкруставаць саломкай нескладаны сюжэт стане пачаткам плённай творчай працы. Не ўсё адразу атрымлівалася. Ды і сур'ёзна заняцца работай не было магчымасці, трэба было гадаваць дзяцей.

Інкруставанне — занятак карпатлівы, не кожнаму па характары. І, напэўна, дапамагло Дар'і Ананьеўне тое, што да дакладнасці, уседлівасці прывучыла яе работа лабаранткі на Глыбоцкім кансервавым заводзе. Відаць, было ў яе моцнае жаданне ды здольнасці, і справа пайшла. Самае складанае, гаворыць Дар'я Ананьеўна, гэта скласці кампазіцыю будучай работы. Тут майстрыха шмат пераняла ў свайго земляка Ф. Сухавілы — вядомага аўтара маляваных дываноў. І ў іх выяўленчай манеры шмат падобнага.

Хутка настане ліпень — час асаблівых клопатаў для ўмелай майстрыхі. Бо толькі ў гэты час можна нарыхтаваць саломку для будучых вырабаў. Для гэтага неабходныя толькі самыя стройныя, залацістыя саломінкі. Сёлета ў ліпені ў Глыбокім, у Доме рамёстваў, пачынае сваю работу персанальная выстава Дар'і Ананьеўны Бельскай — вынік яе карпатлівай працы, якая прыносіць радасць.

Я. КАЗЮЛЯ.
(БЕЛТА).

НА ЗДЫМКАХ:
◆ Дар'я Ананьеўна БЕЛЬСКАЯ — майстар інкрустацыі саломкай з Глыбокага.
◆ Адна з работ Д. А. Бельскай.



# ЗЕМЛЯРОБЧЫ КАЛЯНДАР БЕЛАРУСАЎ





## ЛІПЕНЬ

### ЛИПЕЦЬ... ЛИПЕЦ... ЧИРВЕЦЬ...

Ліпень... Липець... Липец... Чирвець...

Ліпень косіць і жне, доўга спаць не дае.

Сучасная беларуская назва сярэдняга, самага спякотнага месяца лета паходзіць ад слова «ліпа», якая зацвітае ў гэтую пару. Яна мае падабенства з польскай мовай Ііріес і украінскай — липень. У старабеларускіх крыніцах, акрамя наймення липець, сустракаецца яшчэ чирвець, што захавалася дагэтуль, напрыклад, у чэшскай і славацкай мовах і беларускай (чэрвень) у папярэднім месяцы.

Рымляне да 44 года называлі месяц проста пятым Quintilis, паколькі год пачынаўся з сакавіка. Затым у наступным годзе, з прычыны трагічнай смерці Юлія Цэзара, перайменавалі квінтыліс у юліус (julius), таму і захаваліся juillet — у французаў, Juli — у англічан і немцаў, июль — у рускіх.

У старажытных грэкаў адзначалася чатырохдзённае свята Панафінеяў у гонар багіні мудрасці Афіны (рымляне яе называлі Мінервай). Пад час вялікага святкавання адбываліся ўрачыстыя працэсіі, розныя народныя гульні: барацьба атлетаў, гімнастычныя практыкаванні, спевы, танцы.

Ліпень — і самы дажджлівы месяц года, палова дзён яго бывае з ападкамі, вызначаецца ненадзейнасцю надвор'я і асабліва ліўнямі. Здаралася і сухая пара.

Паводле назірання фенолагаў, дробналісцевая ліпа на поўдні Беларусі зацвітае 21 — 25 чэрвеня, а на поўначы— 5—8 ліпеня. Тэрміны зацвітання яе прыблізна на 10 дзён апярэджваюць час наступлення васковай спеласці і на тры тыдні пачатак масавай уборкі азімага жыта. У народзе прыкмячалі: калі паспелі чарніцы, то паспела і жыта. Ліпень дорыць чалавеку спелыя лясныя і садовыя ягады, першыя грыбы.

**3/20. СВЯТА ПЕРАПЕЛАЧНІКАЎ І НАВАЛЬНІЦ.** Лічылася, што нібы ў гэты дзень ці ў наступным грымне гром, блісне маланка.

5/22. За тыдзень да Пятра садзілі рэпу на Смаленшчыне.

**6/23. КУПАЛА (КУПАЛЛЕ)** — старажытнае абрадавае свята сонца і агню, божышчаў урадлівасці і росквіту зямлі. Прымяркоўвалася да летняга сонцастаяння. «Сёння Купала, заўтра Іван...» — гаворыцца ў песнях. Гэта дае падставу сцвярджаць, што Купала — язычніцкае свята, да якога прыстасавана пазней святкаванне царквою (у другі

заможных дамоў і ўжываюцца раздзельна, гуртам і ў складчыну, складаюцца з сыру, тварагу, праснакоў-бабак, з тоўчаным канапляным семем, цыбулі, часнаку. пахучага зелля, халадніку-квасу, яешні, верашчакі, дзе маецца сала і мяса (адзінае выключэнне з астатніх больш раслінных страў у гэтае свята) і г. д...

**Зёлкі, былінкі, травы ў купальскую ноч збіраюцца наогул усе, што патрэбныя для ўжывання — для вянкоў, лекаў і ежы. Гэта лепшая іх пара. Але, як і ўсюды ў славян і на ўсёй Русі, у Русі Белай ёсць травы і кветкі выбраныя, якія выключна належаць купальскаму дню: рута; васіль, васілёк, дзяголь, дзягіль, дзягель; багаткі; салодка, саладушка; буйрак, бурашнік; ластавіца, ластавень, кураслеп, курыная слепата; пералёт; лопань, лопух; быліца; расходнік, брацішкі, брат з сястрою, іван-ды-мар'я; найбольш папараць, папыратка, папаратнік. Ён цвіце толькі адзін раз у год незвычайнай, цуднай, асляпляльна белай кветкаю, іменна ў гэтую поўнач. Скарбы або гаршкі з золатам і серабром даюць аб сабе знаць у купальскую ноч. Над імі выскоквае воўк, гарыць агонь, а часцей за ўсё цвіце папаратнік. Але хто сарве кветку, атрымлівае не адны скарбы. Яго сіла ўсіх здолее, ён адмыкае ўсе замкі і запоры, разбурае перашкоды, здабывае ўсё пажаданае, усё ведае, разумее мову птушак і дрэў, знішчае нагаворы чараўніц. Цяжка кветку падгледзець, яшчэ цяжэй вырваць...**

На дзянніцу павінна ўсё скончыцца, г.зн., дзе ёсць звычай, купаннем. Пасля гэтага ўсе адпраўляюцца глядзець усход сонца. Яно «гуляе», пераліваецца, дзеліцца на некалькі частак, «зайчыкаў», якія разбягаюцца, скачуць і зноў зліваюцца ў адзін круг. Па-іншаму ранiцай сонца едзе «да мужа на тройцы», золатам, срэбрам скача на калясніцы, сыпле з яе промні і іскры. Ранкам 24 чэрвеня — пералом, пасля чаго наступае ўжо Іван, Ян... (Бяссонаў, 1871).

**7/24. ІВАН КУПАЛА (ІВАН КУПАЛЬНЫ, ІВАН, ПЯТРОЎСКІ ІВАН, ІВАН ЛЕТНІ, ІВАН ВЯЛІКІ, ІВАН ПОСНЫ, ІВАН ЗЛОСНЫ, ІВАН ВЕДЗЬМІН, ЯН)** — працяг купальскага свята, якое доўжылася ўсю папярэднюю ноч. «Учора была Купала, а сёння Іван...», — спяваецца ў народнай песні.

Песняю заканчваецца ноч напярэдадні Ражства Іаана Хрысціцеля. Яе спяваюць перад зарніцаю. Хлопцы і дзяўчаты становяцца ў круг і, узяўшыся за рукі, ціха ходзяць, спяваючы ў два хоры. З апошнімі словамі песні дзяўчаты разбягаюцца ў розныя бакі з крыкам: «У, а! У, а!», хлопцы іх ловяць, абдымаюць, цалуюць і г.д. Вяртаюцца дахаты парамі і не разам, а як прыйдзецца. Дзяўчаты крычаць: «У, а!» таму, каб кожны з хлопцаў па голасе мог пазнаць сваю абранніцу. Горка той дзяўчыне, у каторай не акажацца сябра. Яна вяртаецца дахаты адна, калі не знойдзецца сяброўкі па няшчасцю. У спяванні іншы раз прымаюць удзел маладзіцы і жанатыя мужчыны.

(Маёнтак Гараваткі Себежскага павета Віцебскай губерні. Архіў РГТ. 1891).

### «ПРАВЯДУ Я РУСАЛАЧКУ...»

Калі схаваецца сонца, усе дзяўчаты збіраюцца за вёскай і ўюць вялікія вянкі, асабліва пышны для дзяўчыны, якая будзе русалкаю. Русалкаю выбіраюць тую, што мае самыя доўгія валасы. Яна здымае свой андарак і застаецца ў адной кашулі з расшпіленым каўнерыкам (смялейшая скідае нават і кашулю); доўгія распушчаныя валасы вісяць на плячах, агромністы вянок, як кола, пакрывае галаву. Тут жа яшчэ выбіраюць і маленькую дзяўчынку для ролі дачкі русалкі. Адначасова робяць з саломы пудзіла, падобнае на чалавека. Калі ўсе вянкі адзеты і саламянае пудзіла падрыхтавана, бягуць на поле з русалкаю, спяваючы:

**Правяду я русалачку да бору,**
**А сама вярнуся дадому.**
**Правяду я русалачку і ў цёмны бор,**
**А сама пайду і ў таткаў двор.**
**Да й затаплю печ, да й напячу бліноў,**
**Да й пазаву кумоў.**

У полі ідуць па мяжы і, аблюбаваўшы месца як мага далей ад вёскі і засеянай нівы, раскладваюць вялікае вогнішча. Кідаюць у яго пудзіла з песнямі пра Івана Купалу:

**Купала на Івана, Купала!**
**Дзе ўпала, начавала?**
**Купала на Івана, Купала!**
**Упала ў Пятра, у Паўла.**
**Як, Купала, ужывала?**
**Ужывала кашку з перцам,**
**Рыбку з перцам...**

Калі пудзіла згарыць, дзяўчаты і хлопцы пераскокваюць цераз вогнішча і доўга яшчэ працягваюцца іх песні і скокі...

(Гомельскі павет. Радчанка, 1888).

**10/27. САМСОН (СЯМЁН, САМСОН СЕНАГНОЙ).** Прысвятак звязвае народ з дажджамі. «На Самсона дождж — сем тыдняў то ж». «На Самсона дождж: да бабінага лета мокра будзе».

**12/29. ПЯТРО (ПЯТРОЎ ДЗЕНЬ, ПЯТРО І ПАВЕЛ, ПЯТРОК, ПЯТРА)** — старадаўняе земляробчае свята, па сутнасці, завяршэнне Купалля. Земляроб заўважыў: «Святы Пятро ў жыце ядро», «Калі высыплецца ячмень, зязюля падавіцца зернем і больш не кукуе». Вядома, што зязюля куе ад Магдалены да Пятра ці Купалы, калі і заканчваюцца гулянні моладзі. На Брэстчыне спяваюць:

**Да Пятра зязюльцы кукаваці,**
**Да восені дзеваньцы пагуляці.**
**Пятро пройдзе — зязюлька ў вырай пойдзе,**
**Восень прыйдзе — дзеванька замуж выйдзе...**

Дзяўчаты хадзілі ў лес «развіваць вянкі», якія былі «завіты» імі на Сёмуху, «кумаваліся» (выбіралі сяброўку на год). Палілі вогнішчы, елі абрадавыя стравы, гушкаліся на арэлях, спявалі пятроўскія песні:

**Пятрова ночка маленька,**
**Не выспалася паненка**
**На новым ганку седзячы,**
**Міламу кашульку шыючы...**
**(Смаргонскі раён).**

Лічылася, што пасля Пятра лета ідзе на спад. «Прыйшоў Пятрок, апаў лісток». Заканчваўся Пятроў пост.

### КУМАВАННЕ

...У гэты дзень жанчыны і дзяўчаты «кумяцца». Уласна кажучы, дзяўчаты кумяцца на Сёмуху, а разам з хлопцамі на Пятра.

Але ў Чэрыкаўскім павеце наадварот: з мужчынамі на Сёмуху, а самі на Пятра. Вось чаму духаўскія песні так збліжаюцца з пятроўскімі. Кумаванне ўжо страціла свой абрадавы характар. Толькі ў некаторых глухіх паселішчах працягваюць яшчэ хадзіць у лес і там звіваюць вянком дзве суседнія галінкі бярозы або галінкі дзвюх суседніх бяроз. Загадванне (варажба — **А. Л.**) заключаецца ў тым, ці завянуць гэтыя завітыя галінкі ці застануцца свежымі, калі праз тыдзень прыйдуць іх развіваць. Рэчы загадвання самыя звычайныя: ці буду жывая? ці выйду замуж? і г.д.

**Кумаванне наогул уяўляецца ў выглядзе вечарынкі, прычым жанчыны і дзяўчаты гуляюць там, дзе завіваліся вянкі, а сумесныя пагулянкі з хлопцамі праводзяцца ў адной хаце, дзе зімою адбываліся вячоркі з прадзеннем. У лесе распальваюцца вогнішчы, гушкаюцца на арэлях, танцуюць, рыхтуецца абавязкова яешня; прыносяцца бліны, гарэлка. Калі на такую жаночую гулянку з'явяцца мужчыны, жанчыны зрываюць у іх шапкі і кідаюць у агонь. У некаторых мясцінах Магілёўскай губерні яшчэ бытуе барацьба дзяўчат з хлопцамі ў гэты дзень.**

**Кумаванне ў хаце праходзіць у такім парадку. Вечарам на Пятра дзяўчаты прыносяць гаспадыні сыр, масла, малако, яйцы, сала, муку на бліны. Гаспадыня з адной дзяўчынай гатуе, а астатнія спяваюць песні і танцуюць пад прыпеўкі. Хлопцы прыходзяць з гарэлкаю, і танцы робяцца жывейшымі. Запрашаюцца і музыкі, і адбываецца, такім чынам, поўнае ігрышча. Танцы працягваюцца ўсю ноч, моладзь разыходзіцца па хатах ужо раніцай на наступны дзень.**

Існуе асобны цыкл кумаўскіх песень, якія называюцца таксама духаўскімі і пятроўскімі...

**Куміліся дзве кумачкі,**
**А трэцяя не.**
**Прасілася, малілася:**
**Прыміце мяне!..**
**(Рагачоўскі павет. Раманаў, 1912).**

**13/30. ПАЎПЯТРО (ПАЎЛЮК, ПАВЕЛ)** — дзень талакі.

Пасля Пятровага дня не дазвалялася працаваць («грэх»), можна было толькі дапамагаць іншым, але не за плату, а за частаванне. Нават наймалі музыкаў. Паўпятроўская талака адлюстравана ў



Іван...» — гаворыцца ў песнях. Гэта дае падставу сцвярджаць, што Купала — язычніцкае свята, да якога прыстасавана пазней святкаванне царквою (у другі дзень, 24 чэрвеня «Рождества честного славного Пророка, Предтечи и Крестителя Господня Иоанна». Язычніцкае Купала ўпамінаецца ў летапісах 1175 года.

**На Купалле дзяўчаты збіралі лекавыя зёлкі, кветкі для вянкоў. Хлопцы пад вечар сцягвалі старыя рэчы, галлё для вогнішча. Месца для яго выбіралася часцей на высокім беразе ракі ці возера, на паляне, каля жыта.**

**Раней праводзілі абрад здабывання «жывога» агню — цёрлі асінавыя палкі. «Сягодня ў нас Купала, сам Бог агонь расклаў». У якасці паліва для вогнішча служылі таксама дровы з дубу — сімвалічнага дрэва Перуна, што бачна з купальскіх песень: «Пажарам дуб'е гарэла...», «Гарэла диброва, гарэла...» і інш.**

Песнямі суправаджаліся абрады на свяце, карагоды і гульні, завадатарамі якіх з'яўляліся Купалінка і Купаліш. Ля вогнішча ўсе частаваліся абрадавай стравай, моладзь перасkoквала цераз агонь — ён лічыўся ачышчальным ад злых духаў. Паленне прасмаленых колаў на шчасце ці спусканне іх (палаючых) з гары азначала адгалоскі пакланення свяцілу. «А на гарэ калясо, гарыць яно харашо...»

Дзяўчаты на Купалле варажылі аб будучым замужжы. Наогул, гэта свята маладосці і кахання. У далёкім мінулым яго называлі «д'ябальскім ігрышчам», «ігрышчамі между сёламі», пра якія Несцераў летапіс сведчыў: «Схожахуся на игрища, и ту умыкаху (выкрадалі— А. Л.) жены собе, с нею же кто совещашеся; имяху же по две и по три жены».

## КУПАЛА

Вечарам 23 чэрвеня збіраецца супольнасць па магчымасці ўсіх жыхароў вёсак, якія ў сувязі з гэтым амаль пустыя, у полі, на пагорку, каля рэчкі ці вялікай ракі...

Галоўны разгар свята, гулянні, песні —ноччу, на Івана. Робяць і прыбіраюць ляльку — жаночае пудзіла. Носяць яе, скачуць вакол, запальваюць пазней —топяць у вадзе...

**Часцей агульнаўжывальнае і абавязкова паўсюднае, як выключная асаблівасць, без якой няма Купалы, — вогнішча, што запальваецца, згарае, іншы раз заліваецца вадою... Агонь у некаторых мясцінах распальваюць пры дапамозе трэння дошак. Яны і гараць у вогнішчы з разбітых бочак, чанаў, кублаў, вёдзер, хатняга драўлянага посуду, у дадатак — старых ануч, лыка.**

**Цераз вогнішча скачуць, але меней, чым у Маларосіі і іншых краях. Больш вакол танцуюць, гуляюць, балююць. Замест вогнішча ці пры ім іншы раз гарыць бочка, калі ёсць — смаляная, дзе дазваляе мясцовасць — на ўзвышэнні або крутой гары.**

**Заліваюць агонь кубламі (чанамі, дзежкамі) і вёдрамі. Радзей «пускаюць» вогнішча на плоце... Яшчэ радзей цяпер купаюцца пад раніцу ў сувязі з забыццём старыны, ачышчэннем паняццяў і ўмацаваннем хрысціянства. Разам з тым ноччу бывае і менш грахоў. У некаторых мясцінах купанне замяняе лазня і то ўжо як падрыхтоўка да свята або ачышчэнне пасля Купалы...**

Самое месца, дзе збіраюцца, абгароджваецца, абсаджваецца зялёнымі дрэўцамі, часцей бярозкамі, калкамі, накшталт зялёнага тыну, плятня...

Абрады суправаджаюцца песнямі, моцным прытупваннем, стукам. Калі маецца, у штосьці-небудзь б'юць: ці ў кубел, ці ў вядро. Гэта і адчуваецца ў прыпеве самых песень. Дзе толькі захавался валынка і можна яе дастаць, то яна абавязкова прысутнічае. Пры ёй і дудар, скамарох з прытанцоўваннем. Калі ж няма, то добра і скрыпка...

Пачастункі, якія прыносяцца з усіх



Адным з архітэктурных помнікаў Жыровіцкага манастыра з'яўляецца Яўленская царква. Узведзена гэта бязвежавая царква-капліца ў 1769 годзе на тым месцы, дзе, паводле падання, другі раз з'явілася людзям славутая Цудатворная Жыровіцкая ікона Божай Маці.
Фота В. Жыгунова.

працаваць («грэх»), можна было толькі дапамагаць іншым, але не за плату, а за частаванне. Нават наймалі музыкаў. Паўпятроўская талака адлюстравана ў песнях: «А што ў полі шуміць, гудзе? Шуміць, гудзе. Там талака дамоў ідзе...», «Святы Пётра талаку збіраў копы сена вазіць, стагі мятаць».

**СІМАН І ЮДА.** Сімон і Іуда, два з 12-ці апосталаў дня, якіх выдзеліў народ і замацаваў у выслоўі «На Сымана і Юды конь баіцца груды». Груды — гэта кавалкі зямлі, якія атрымліваюцца пры аранні поля.

**14/1. КУЗЬМА І ДЗЯМ'ЯН (КАСЬМА І ДАМІАН)** — свята кавалёў. «У дзень святога Касьмы і Даміана кузніцы не куюць і бабы не п'юць». Спецыяльную песню «Кузьму» спявалі тым, хто вянчаецца першы раз (не выконваецца ўдовам і ўдаўцам):

**Скуй нам свадзебку,**
**Свадзебку крэпкую,**
**Даўгавечную,**
**На векі неразлушную...**

Кузьма і Дзям'ян вядомы і як апекуны земляробства. «Кузьма сярпы зубіў, ідзя згубіў», «На Кузьму і Дзям'яна касіць не рана», «Святы Пятро жыта спеліць, святы Кузьма сярпы робіць, а святы Дзям'ян сена грабіць».

**17/4. АНДРЭЙ (АНДРЭЙ НАЛІВА)** — адзін з апекуноў земляробства, пра яго пяецца:

**Трэці празнік — святы Андрэй,**
**Святы Андрэй, за ўсіх мудрэй,**
**Саху ладзіць, каня гладзіць...**

Да Андрэя завяршаўся працэс выспявання жыта. Пра гэта народная мудрасць сцвярджае: «На Андрэя азімыя наліліся, а татка-авёс да палавіны дарос. Авёс у світцы, а на грэчцы і кашулі няма. Зерне ў каласку, не валяйся ў халадку».

**18/5. СВЯТА МЕСЯЦА, ЛАМПАДЫ.** У ім, як сцвярджаў А. Кіркор, ёсць рэшткі культу Велеса — «бога статка, апекуна пастухоў».

**21/8. ГРАДАВЫ ДЗЕНЬ** (Казанская). Засцерагаў ад нябесных стыхій, ад хвароб вачэй і галавы. У некаторых раёнах пачыналі касіць, праводзіць зажынкі.

**ПРАКОП.** Велікамучанік Пракопій звязаны ў народзе з цёплымі ліпеньскімі днямі. «Пракоп бок прыпёк».

**Данат.** Пра святога Даната вядома толькі з песні «Святы Данат коскі точыць, сянцо косіць...»

**25/12. ПРОКЛ** — прысвятак. У той дзень асцерагаліся вялікіх росаў, пасля якіх гніло сена.

**Якуб.** Прысвятак мае некалькі прыказак і прымавак, якія ўсебакова яго характарызуюць: «На Якуба грэе люба», «Які Якуб да паўдня, такая да снежня зіма», «На Якуба хлеба поўна губа».

**26/13. ГАЎРЫЛЕЙ** — прысвятак. Баяліся, каб град не пабіў каноплі.

**Ганна.** «Дождж на Якуба — для жалудоў згуба, а як Ганна з дажджом — дык гарэх з чарвяком», «Святая Ганна снапы кладзе».

**СЕРПАВІЦА (СЕРПАВІНА, ШЫПІЛІНКА)** — пятніца перад Ільёй. Дзень «зазубрывання» сярпоў, час падрыхтоўкі да жніва ў некаторых мясцінах. «Шыпілінка ў кузню ідзець, у кузню ідзець сярпы зубіць».

**Заўвагі.**

**У календары даты падаюцца па новаму і старому стылях (3/20 — 3 ліпеня па н.ст., 20 чэрвеня па ст. ст.; 14/1 — 14 па н.ст., 1 па ст. ст. ліпеня). *Асобна выдзелены святы і прысвяткі, якія вядомы сярод беларусаў-католікаў і замацаваны па н.ст.**

**Алесь ЛОЗКА.**

*На кніжнай паліцы*



# У пошуках краязнаўства

**У друку ўжо не раз выказвалася меркаванне, што многім кніжкам пра гарады, раёны Беларусі нестае грунтоўнасці, нестае шырыні гістарычнага светапогляду. Прычына!.. Але ж прычына тут не адна, іх — шмат. А на першым плане бачыцца мне самая звычайная адсутнасць краязнаўчага матэрыялу. Каб весці размову аргументавана, давайце зазірнём на старонкі апошніх кніг.**

Летась і пазалетась пад серыйнымі пазнакамі і без іх у «Полымі» пабачылі свет так званыя гісторыка-эканамічныя нарысы «Лунінец», «Шчучын», «Быхаў», «Клічаўшчына», кніга «Край наш Наддзвінскі». Толькі апошняе са згаданых выданняў — на беларускай мове. Дык вось, калі браць пад увагу агульны памер (а ён ад сарака пяці—шасцідзесяці кніжных старонак да ста дваццаці), то і гісторыі, як кажуць, да 1917 года, можаце сабе ўявіць, колькі адводзіцца старонак. Лепшым чынам — трыццаць, а то і зусім амаль што дзесяць. Уражанне такое (за рэдкім выключэннем), што кніжкі ў большасці сваёй напісаны з наскоку. Пакарпеў з дзесятак дзён у архівах і бібліятэцы, а пасля перагарнуў колькі падшывак раённай газеты — і «гісторыка-эканамічны нарыс» ужо гатовы.

Здзіўляе тут вось што. Жывём мы ва ўмовах папярэдэфіцыту, гэта значыць, што наўрад ці двойчы-тройчы на дзесяць—дваццаць гадоў будуць выдавацца кніжкі пра адзін і той жа райцэнтр, пра адзін і той жа раён. Дык чаму, адкуль гэтая паспешлівасць?! Зазірніце ў кніжкі А. Мальдзіса пра Астравеччыну, Г. Каржанеўскага пра Маладзечаншчыну — ці не дзесяцігоддзямі можна чэрпаць, бы з крыніцы, гісторыю сваіх родных мясцін і цікаўнаму вучню, і гісторыку школьнаму?! А што, якія адкрыцці прыходзяць да нас з гісторыка-эканамічнага нарыса «Клічаўшчына»? Так, Клічаў упершыню ўпамінаецца ў 1592 годзе. Дык вось, ад дня нараджэння да рэформы 1861 года ўся гісторыя раёна ўмясцілася ў дзве кніжныя старонкі! Каментарыі, як кажуць, непатрэбны.

Ва ўсе часіны мы вінавацім рэдактараў, выдаўцоў. Так, іх віна ёсць шмат у чым. Ды, пагадзіцеся, не ўсюды нешта рабілі, прымалі нейкія рашэнні яны па сваёй волі. А, па-другое, навошта вінаваціць рэдактара, калі ў такіх брашурах, як пра Клічаўскі край, то і выкрэсліваць, пэўна, не было б чаго. Прайшлі праз выдавецкія перапоны цудоўныя, багатыя на фактычны, на сур'ёзны гісторыка-краязнаўчы матэрыял кнігі М. Мельнікава, К. Шышыгінай. Разам са згаданым ужо Генадзем Каханоўскім яны задалі тон, падказалі, якой павінна быць краязнаўчая роспаведзь пра тыя ці іншыя мясціны. Што ж, варта парадавацца: слова старэйшых знаўцаў Беларусі пачута і Мікалаем Калінковічам (аўтарам кніжкі «Лунінец»), і Анатолем Крачкоўскім (у кнізе «Край наш Наддзвінскі» ён распавядае пра бешанковіцкую зямлю). Перагарніце згаданыя кнігі. За імі — праца многіх гадоў. Мікола Калінковіч пачаў яе яшчэ школьнікам, больш як два дзесяцігоддзі назад. Не ў адначассе, па ўсім відаць, зрабілася і кніжка Анатоля Крачкоўскага. Аўтар уважлівым позіркам аглядае ўжо напісаныя стагоддзе назад, а то і больш, даследаванні зямлі віцебскай. Старонка за старонкай гартаючы кнігу Анатоля Крачкоўскага, мы сапраўды ўяўляем даўніну нашу. «Край наш Наддзвінскі» — гатовы семінар для юных бешанковіцкіх краязнаўцаў, цудоўны дапаможнік школьнаму выкладчыку гісторыі. Варта толькі зазірнуць у кнігу, як чытач патрапіць у бурлівы вір Паўночнай вайны, а таксама Айчыннай вайны 1812 года. А хіба ж не такі багаты на гісторыю Быхаў (кнігу пра яго напісаў Мікалай Паўлавіч Хобатаў). Свідрыгайла, князі Гаштальды, Леў Сапега, Ян Караль Хадкевіч — вось гаспадары колішнія старажытнага Быхава. Што яны рабілі ў Старым Быхаве? Як адносіліся да сялян? Якія гістарычныя перыпетыі таго часу спаткаў Быхаў? І аб усім гэтым — адным абзацам... Хіба ж можна з такой паспешлівасцю гаварыць пра малазнаёмую нам спадарыню Гісторыю?! А той факт, што ў Быхаве адлівалі гарматы... І зноў пра ўсё — толькі шэсць радкоў, усяго шэсць радкоў!

Безумоўна, добра, што ёсць цяга ў некаторых людзей да пісання такіх кніг. Але ж чаму адсутнічае цяга да грунтоўнага пошуку. Тым больш, што шукаць у нас, на Беларусі, ёсць дзе! Адных архіваў колькі, а колькі ўжо знойдзеных, адкрытых фактаў хаваецца за вокладкамі кніг мінулых дзесяцігоддзяў? Уражанне такое, што даследнікі не даследуюць, неахвотна цягнецца іх рука не тое што да кніг, часопісаў мінулага стагоддзя, а назат і перадваеннага часу. Гісторыка-краязнаўчая інертнасць нараджае і адпаведныя адносіны да самой магчымасці выхавання краязнаўства. У некаторых раёнах, змагаючыся за выданне біяграфіі свайго краю, шукаючы аўтара, здольнага пра гэта напісаць, клапоцяцца аб інфармацыйным баку справы. Маўляў, не ведаем, з якога года горад існуе ці пасёлак, хто бываў у нашым раёне і гэтак далей. А дбаць жа трэба пра тую інфармацыю і ў такой ступені, каб яна дзейнічала, працавала, вяла барацьбу за свядомасць. Гэта добра, да прыкладу, разумеў аўтар кнігі «Лунінец», на вялікі жаль, ужо нябожчык Мікола Калінковіч (недацягнуў і да сарака гадоў!). Ёмістыя, шматфарбныя факты яго краязнаўчых знаходак паўстаюць у кантэксце з думкай, з асэнсаваннем нашай гісторыі, гавораць аб імкненні аўтара выказаць свой позірк. Прачытайце невялікі (на старонку) нарыс ці мо проста краязнаўчую занатоўку «Міхаіл Кулеша ў Луніне». Вось пачатак: «У 1824 годзе лёс прывёў на Лунінеччыну і мастака Міхаіла Кулешу. Чаму ён, вучань гэткіх папулярных у той час майстроў жывапісу, як Ян Рустэм і Ян Дамель, прыехаў сюды, вярнуўся на радзіму (месца яго нараджэння не ўстаноўлена, а яго прозвішча і зараз сустракаецца ў гэтых мясцінах)? Прыняў запрашэнне пана Іераніма Друцкага-Любецкага? Нехта падказаў схавацца ў глыбінцы? І роздум, і ўласныя згадкі, і пытанні для заўтрашняга пакалення даследчыкаў — усё сплецена ў нарысе разам, усё прымушае працаваць думку. Ці не гэта галоўнае?..

А «Падарожжа Контрыма і Крашэўскага»?.. А іншыя нарысы Мікалая Калінковіча, што ўводзяць нас на Лунінеччыну дзевятнаццатага стагоддзя.

Цікавыя факты адкрываюць і аўтары кнігі «Шчучын». На некалькіх літаральна старонках чытач сустракаецца з буйнейшымі вучонымі XVIII—XIX стагоддзяў — М. Догелем, К. Нарбутам, С. Юндзілам, І. Дамейка. І ўсё ж спрацоўвае прынцып інерцыі, аўтары быццам стрымліваюць сябе, звальваюць імёны і факты ў кучу. Адбываецца гэта ці то з-за недахопу фактычнага матэрыялу ці то яшчэ па нейкай прычыне.

І ўсё ж «Шчучын», а тым больш «Лунінец» — кнігі, вартыя карыстання, шырокага ўжытку, усемагчымай прапаганды, асабліва ў адпаведных рэгіёнах. Што ж датычыць «Быхава», «Клічаўшчыны», то яны якраз і выконваюць задачы «гісторыка-эканамічнага нарыса». А чаму б не перавярнуць усё з ног на галаву ці хутчэй — наадварот? Чаму б не задумацца, мо след у якасці рухавіка ўзяць другое вызначэнне да жанру кніг, пра якія мы вялі гаворку? Як, напрыклад, у Міколы Дзелянкоўскага: яго кніжачка пра Скідаль пазначана як дакументальна-лірычны нарыс. Ці ўвогуле не звярнуцца за ўзорам — прыкладам да караткевічаўскай «Зямлі пад белымі крыламі»? Вучыцца ж след у вяршынь, што і самі да нас цягнуцца праз сінія аблокі.

**Назваўшы свой матэрыял «У пошуках... краязнаўства», ні ў якай ступені не хачу адмаўляць важнасць адлюстравання фактаў блізкай гісторыі, сучаснай нам, нашым бацькам. Безумоўна ж, трэба пісаць і пра партызанскую вайну, і пра здзекі гітлераўцаў на беларускай зямлі. Але ж пакуль што забыта намі якраз гісторыя XIX стагоддзя, папярэдніх стагоддзяў, гісторыя, якая і распрацавана, і занатавана цудоўна сучаснікамі. Варта толькі ўгледзецца ў кніжныя паліцы, варта толькі зайсці ў нашы архівы. Як усё простае, жыццёва неабходнае намі ж самімі робіцца далёкім і недасягальным! Прычына на дзіва ясная — бездапаможнасць у мысленні, адсутнасць працавітасці, цягавітасці ў асэнсаванні гістарычнай памяці.**

Мне здаецца, што аднымі толькі сіламі «цэнтра», аднымі сіламі навукоўцаў-гісторыкаў нічога дасягнуць нельга. Першыя і ці не гэткія ж важныя, як і архівы, крыніцы краязнаўства — непасрэднае вывучэнне мясцовасці, запіс легенд, паданняў. Хто лепш, чым мясцовыя энтузіясты, гэта зробіць? Дык чаму не — скажам па блізкаму, але, на шчасце, выходзячаму з ужытку — актывізаваць сілы... Чаму (скажам прасцей) не падахвочваць людзей да краязнаўчых росшукаў. Безумоўна, не трэба ніякіх (часцей псуючых справу, чым ідучых на карысць) дырэктыў, загадаў. Патрэбны энтузіязм, ахвота «цэнтра», педагагічных устаноў, райвыканкомаўскіх аддзелаў культуры. Патрэбна згуртаванне і мэт, і клопатаў, і спраў.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

*Мы і наша вера*

# Дарога да храма

Пасля 45-гадовага сіроцкага маўчання зноў адчыніла свае дзверы праваслаўная царква ў вёсцы Цялуша-2 Бабруйскага раёна, што на Магілёўшчыне.

Высокая, прасторная з чырвонай цэглы царква была пабудавана ў 1880 годзе на сродкі афіцэра Нарвскага гусарскага палка Паўла Аркадзьевіча Варанцова-Вельямінава і яго жонкі Наталлі Аляксандраўны Пушкінай — дачкі старэйшага сына А. С. Пушкіна, якія ў 1881 годзе зарэгістравалі шлюб. Павел Аркадзьевіч жыў у маёнтку Вавулічы ў трох кіламетрах ад вёскі Цялуша-2. Тут маладая пара пасялілася, як толькі палкоўнік Варанцоў выйшаў у адстаўку.

Тут, у (па тых часінах) вясковай глушы, Павел Аркадзьевіч і Наталля Аляксандраўна актыўна займаліся дабрачыннай дзейнасцю. Н. А. Пушкіна-Варанцова, як і яе вялікі продак, была таксама таленавітым самародкам: пісала вершы, песні, малявала пейзажы, ткала ўзоры з беларускімі арнаментамі разам са сваімі служкамі—сялянкамі з вёсак Цялуша, Ступяні, Плёсы, Савічы. У сям'і Варанцова-Вельямінава было і шасцёра дзяцей. Усе яны выраслі сярод сялянскіх дзяцей у маёнтку ў Вавулічах. У 1910—1912 гг. муж і жонка Варанцовы былі пахаваны ў вёсцы Цялуша-2 на царкоўным майдане. Удзячныя землякі Н. А. Пушкінай паставілі гранітны помнік з залатым адбіткам літараў: «Тут пахавана Пушкіна Наталля Аляксандраўна па мужу Варанцова-Вельямінава (1859—1912)».

Кожны год тут адбываюцца пушкінскія святы, піянерскія зборы вучняў Цялушскай СШ.

Як трапілі Варанцовы-Вельямінавы на Бабруйшчыну, пра гэта кожны можа даведацца ў Бабруйскім краязнаўчым музеі, што размяшчаецца па вуліцы Пушкіна, 70.

Але зноў звернемся да праваслаўнай царквы ў вёсцы Цялуша-2, якую ўзвялі на свае сродкі дваране Варанцовы і Пушкіна Н. А., паказаўшы дарогу да храма. Тут свецяць купалы і крыжы пад сінім небам. Магутныя дрэвы стаяць вакол царквы. Радуе вока святочная чысціня і серабрацца пад ручнікамі іконы, якія збераглі вернуючыя за мінулыя 45 гадоў дома і ў лясных тайніках ад драконаў Сталіна. Цяпер у вясковай праваслаўнай царкве зноў ідзе служба. Аднавіліся абрады хрышчэння, шлюбныя рытуалы і адпяванні нябожчыкаў.

**В. ЛАЎРЫНОВІЧ, настаўнік.**

# «Пагоня» — суполка аднадумцаў

Па праўдзе кажучы, артыкул Алеся Тарановіча «Пагоня... за чым?» («ЧЗ» № 19, 6—12 мая 1991 г.) не быў для мяне нечаканым. Што ж, «Чырвоная змена», хоць і са спазненнем, а ўсё ж такі не прайшла міма мастацкай выставы, арганізаванай суполкай «Пагоня». Адгукнулася крытычным артыкулам. Пра лексіку ды стыль якога я гаварыць не буду, але зазначу, што нашую выставу ладзілі сябры суполкі «Пагоня», якія падзяляюць яе статутныя палажэнні. Апаненты ж не запрашаліся. Апаненты маюць магчымасць уваходзіць у іншыя творчыя аб'яднанні, пачынаючы з «Галіны», лідэрам якой лічыцца Тарановіч, «Нямігі», «Верасня» — да «Традыцыі».

Аўтары артыкула прайшлі міма тых мастакоў, удзельнікаў выставы, творчасць якіх можна было б смела аднесці да авангарда беларускага мастацтва. Гэта і жывапісныя палотны Георга Скрыпнічэнкі, Вячаслава Валынца, Міколы Андруковіча, Сяргея Цімохава, мастакоў-графікаў і майстроў ДПМ.

Увесь пафас артыкула зводзіцца да наступнага: некаторыя сябры суполкі «вычарпалі ў сваёй эвалюцыі не толькі вобразы і сюжэты, але і саму выяўленчую мову, ператварыліся ва ўласных эпігонаў». Заканчваецца артыкул заклікам: «Як бы ні спакушала нашу культуру мінулае, ісці трэба наперад — разам з усімі». З кім гэта разам — не вядома. З «эпігонамі», якія маюць прымітыўны густ «правіцеляў»? (Выраз аўтараў артыкула.) Я параіў бы Тарановічу быць больш патрабавальным да кампаніі, якую выбіраеш.

Менш за ўсё хацелася б аналізаваць артыкул, асобныя яго абзацы. Скажам, адкуль узялі шаноўныя аўтары пункт статута аб супроцьстаянні «касмапалітычным тэндэнцыям у мастацтве», калі такога пункта не існуе, а запісана наступнае: «Стварэнне суполкі выклікана неабходнасцю аб'яднання нацыянальна свядомых беларускіх мастакоў перад пагрозаю нівеліроўкі, уніфікацыі пад сцягам ілжэінтэрнацыяналізму беларускай мастацкай культуры, поўнай страты ёю этнічнай нацыянальна-этычнай, эстэтычнай адметнасці; перад культурнай экспансіяй суседніх дзяржаў».

І безумоўна, для ўсіх сяброў суполкі, а найперш маладых, будзе найвялікшым адкрыццём, што, як сцвярджаюць аўтары, «...вытокі заняпаду нацыянальнай культуры і самасвядомасці... не ў «русіфікатарах і паланізатарах», не ў «партакратыі», а ў «змагарах» за нацыянальнае адраджэнне накшталт ідэолагаў «Пагоні».

І як можна сур'ёзна ўспрымаць, што «афіцыйна сёння прэрагатыва аддаецца развіццю вясковай культуры». Шаноўныя... Расплюшчыце вочы. Гляньце, якая наша вёска. Гарадская эрзац-культура праз радыё, тэлевізію, кіно — падмінае ўсё, што яшчэ ўчора неяк дыхала. Нягледзячы на прынятыя законы, і сёння ідзе татальнае глушэнне ўсяго нацыянальнага. І да гэтага прычыняюцца, гэтаму дапамагаюць некаторыя прадстаўнікі авангардызму, якія імкнуцца ў сусветнае мастацтва, забываючыся, што яно з'яўляецца «сабornасцю» лепшага нацыянальнага.

Нельга не пагадзіцца, што суседняя Літва ў многім з'яўляецца прыкладам у адраджэнні нацыянальнай культуры і, хочацца дадаць, у адраджэнні дзяржаўнай незалежнасці. Ёсць розніца і між тымі, хто ў час, калі дадзена «зялёнае святло» вывешвае Пагоню і бела-чырвона-белы сцяг у Варшаве, і, скажам, тымі, хто сцвярджаў гэтыя сімвалы ў самыя застойныя часы, калі прыходзілася сябрам суполкі М. Купаву, Я. Куліку і аўтару гэтых радкоў прайсці праз адпаведны націск з боку партыйнага бюро Саюза мастакоў і выклікі ў КДБ. І тым не меней гэты артыкул — таксама прыкмета нашага часу. Як бы там ні было — гэта натуральны абмен думкамі. Тым болей, што ёсць за што крытыкаваць творчасць сяброў суполкі. І выстава, на мой погляд, дае адпаведны матэрыял. І дзякуй Богу, што мы дажылі да такога часу. У 70-я ці пачатку 80-х гадоў хто б адважыўся крытыкаваць М. Савіцкага ці А. Бембеля за іхнюю «ленініяну». Вось чаму сябры суполкі «Пагоня» рашуча выступаюць супраць усіх званняў і прывілеяў, супраць сяброўства ў суполцы мастакоў — членаў КПБ-КПСС, бо лічаць — **мэты і задачы суполкі «Пагоня»** несумяшчальныя з ідэалогіяй і практыкай КПСС. І ўсё ж, нягледзячы ні на што, не магу зразумець аўтараў, як можна тварыць мастацтва з пачуццём, што «нашая традыцыйная культура... на сённяшнім этапе становіцца рудыментарнай,.. што беларусы сутыкнуліся з комплексам непаўнацэннасці, другаступенчатасці».

Шаноўныя!.. На Беларусі былі не толькі Марк Шагал і Казімір Малевіч. Былі і Хруцкі, і Рушчыц, і Драздовіч. Ёсць сённяшнія маладыя мастакі, творы якіх у іншых краінах складалі б ім славу. Але я не пазайздрошчу тым, хто выехаў за мяжу і там настальгічна малюе беларускія хлявы і адрыны. Не хацеў бы і долі выехаўшага Мартынчыка, які пасля сябе на сценах культурных устаноў горада Менска пакінуў жалезных чаканных монстраў з сярпамі ды малаткамі, а за межамі Беларусі стварае абстрактныя палотны і праз радыё «Свабода» павучае ўсіх нас, як жыць ды тварыць.

Няма сумнення — развіццё нашай культуры не можа адбывацца без супольнасці з еўрапейскай, сусветнай. Толькі ці кожны малады мастак можа сказаць, што спазнаў сябе, свой народ. Ці кожны з сённяшніх авангардыстаў увабраў у сябе з немаўляцтва гэтую збэшчаную аўтарамі артыкула традыцыйную культуру свайго народа — непаўторную песню, мілагучнае слова, гармонію колераў ды рытмаў свайго краю.

Сёння наросхрыст адчынены вокны і дзверы ў Амерыку... Амерыканская маскультура запаланіла Еўропу. Еўрапейскія нацыі ўжо адчулі небяспеку экспансіі і нівеліроўкі сваёй культуры. Чым мы, беларусы, можам гэтаму супроцьстаяць... Дамарошчаным авангардам, яго, так бы мовіць, ар'ергардам, створаным па каталогах ды рэпрадукцыях заходніх мастакоў? Дык можа і не варта супроцьстаяць. Адчынім вокны і дзверы ўсім вятрам і скразнякам?! Мастацтва ж не ведае межаў. Хай мацнейшы выжывае.

Шлях да дасканаласці, мне здаецца, не ў шырыні самавыражэння, дзе лёгка схавацца за невуцтва і няўменне, а толькі праз глыбіню спасціжэння таямніц прафесіяналізму. Няма прамога шляху ў мастацтве. Толькі меліярацыйная канава прамая. Жывая ж рачулка мае свае звіліны ды затокі. І можа рана гаварыць пра «апошні страчаны шанц выступіць адзінай плюралістычнай кагортай прадстаўнікоў розных напрамкаў, спалучыць традыцыю і наватарства». Ды і творчая суполка не бярэ на сябе задачы паліфаніі і «сабornасці». Яна будзе і надалей наладжваць культурныя імпрэзы, выставы аднадумцаў.

**А. МАРАЧКІН,**
**старшыня творчай суполкі «Пагоня».**

# Святло паходні ці сацыялізм «наадварот»?

На адной з апошніх выстаў у Палацы мастацтваў на вочы кінулася адна адметнасць: амаль на кожнай карціне—крыж. Выстава была прысвечана чарнобыльскай бядзе, і гэты сімвал, здавалася б, быў да месца. Але... у тым і ўся справа, што выстава была мастацкая. І, выдатна разумеючы і боль, і пачуцці аўтараў работ, міжволі падумаў: калі ў мастацтве пачынаюць панаваць стэрэатыпы мыслення, яно ўжо працуе на сваю згубу.

А праз некалькі тыдняў — артыкул у «Чырвонцы» А. Тарановіча і Т. Копшы «Пагоня... за чым?». Гонар газеце, якая ледзь не першаю закранула такую далікатную тэму. Так, нялёгка весці гаворку, калі размова ідзе аб нацыянальных святынях. Але калі паяўляецца небяспека зрабіць іх ледзь не фетышамі, якія мала чым адрозніваюцца ад фетышаў накшталт тыражаваных бронзавых ідалаў Ульянавых (Леніных), лыткастых і чырванашчокіх даярак, ідыятычна-ўсмешлівых будаўнікоў, то такая гаворка неабходная.

Няхай не крыўдуюць на мяне некаторыя мастакі (а таксама літаратары і іншая творчая брація), аднак многія з іх, сарваўшы прэч з вачэй ненавісную чырвоную павязку, добраахвотна павязалі бела-чырвона-белую. Ці сталі яны ад гэтага больш відушчымі? Не, калі адмаўляюць іншым у праве думаць інакш, калі не дапускаюць ніякай мастацкай палемікі і рознагалосся, калі бачаць толькі вершніка з узнятым мечам, а не бачаць тых даляглядаў, да якіх гэты вершнік імкнецца... А ў выніку — ці не пануе па-ранейшаму ў нашым нацыянальным мастацтве ўсё той жа «сацыялістычны рэалізм», толькі са знакам «наадварот»?

«Паказ рэчаіснасці ў яе рэвалюцыйным развіцці» — і вось ужо народ да лепшай долі вядзе святло паходні, а ўсё, што незразумела, нечакана выбіваецца са звыклага ўяўлення аб «гаротным братку-беларусу», — ахрышчваецца «не нашым», гаворачы па-расейску, «выпендрёжем». І з бальшавіцкай праматою такім творцам кажуць: вон! Вон з нашага адраджэнскага храма!..

Хачу, каб зразумелі мяне правільна: я ні ў якім разе не хачу, каб хтосьці збочыў са шляху А. Марачкіна або Л. Рублеўскай і рушыў толькі па шляху А. Тарановіча або А. Разанава. Але калі адбываецца адмаўленне таго ці іншага, і пры гэтым апаненту ледзь не дыктуюць спосаб думак, то ў сваёй творчай свабодзе або хутчэй несвабодзе гіне як першае, так і другое.

Неяк у размове з маладымі паэтамі сакратар Брэсцкай пісьменніцкай арганізацыі А. Каско сказаў: «Разбурыць паэзію лёгка. Стварыць сапраўдны паэтычны радок —нашмат цяжэй». Слушная думка. Якую таксама можна аспрэчваць. Бо што лічыць разбурэннем? Адчуванне «каротка-штонікавасці» прывычных форм і сродкаў? Пошук нечага новага, адметнага, якое не сёння, дык заўтра ўзбагаціць нашу Паэзію, а то і стане рэвалюцыяй у ёй? Таму давайце лепш не будзем навешваць адзін на аднаго ярлыкі, а ўспомнім, што нацыянальнае мастацтва — гэта не толькі самотны чарнобыльскі бусел або мантыя доктара Скарыны.

«Аднаклетачнае грамадства здольна вырадзіцца да алігафрэнаў, шматклетачнае — узняцца да геніяў» — хачу яшчэ і яшчэ раз звярнуць увагу на гэтыя словы з артыкула А. Тарановіча і Т. Копшы. Нельга пабудаваць сапраўдны Храм Мастацтва, выкарыстоўваючы толькі рэалістычную цэглу, няхай і самую дыхтоўную. Патрэбны яшчэ і раствор рамантызму, мадэрновыя вітражы, класічныя званы, абсурдная брама. А ў храме не можа быць ворагаў, памятайма пра гэта.

**Ігар СІДАРУК.**
г. Кобрын.

*Секс і культура*




ПАСПРАБУЙЦЕ сёння адкрыць у аўтобусе «Гармонію шлюбу» або «Мужчыну і жанчыну» вы рызыкуеце натыкнуцца ўжо не на праведны гнеў дабрадзейных суайчыннікаў, а на спагадлівую ўсмешку: «Эх, братка, трохі адстаў ты ад жыцця...» З некаторага часу савецкі чалавек упэўнены, што ведае пра секс усё, прынамсі, усё, што яму патрэбна! Яшчэ б! Выкармленыя на працягу апошніх двух гадоў чытаннем накшталт «Дзесяці запаведзей прастытуткі», эратычнымі календарамі, парнавідэафільмамі і ўсялякімі кааператыўнымі брашурамі па «секс-лікбезу», мы прыкметна выраслі ва ўласных вачах. А пасля таго, як газета «Двое» падарыла гурманам далікатэс—вядомыя «сто поз»—наша ўпэўненасць у сабе ўзрасла ў тысячу разоў. Абклаўшыся схемамі і рэкамендацыямі, мы смела ўступаем у тое, што называецца светам інтымных адносін...

**З гутаркі з загадчыцай Рэспубліканскага цэнтра па пытаннях сям'і і шлюбу Л. А. Жукоўскай:**

**— У нашай краіне не проста невысокі, а катастрафічна нізкі ўзровень культуры. Раней бязграматнасць ішла ад ханжаскай забароны. Помню, гадоў дзесяць назад мяне запрасілі выступіць па Беларускаму тэлебачанню. Справа даходзіла да смешнага: рэжысёр перадачы сур'ёзна сумняваўся, ці можна з экрана тэлевізара вымавіць словазлучэнне «палавы кантакт»... Цяпер кінуліся ў іншую крайнасць, і дазволена ўсё ў любых выказваннях. Аднак практыка нашага цэнтра паказвае: узровень сексуальнай культуры па-ранейшаму на нулі. Сённяшняя палавая адукацыя пайшла па шляху найменшага супраціўлення: замест таго, каб неяк развіваць людзей, дапамагаць ім прыўзнімацца над прымітыўнымі поглядамі і перакананнямі, яна, наадварот, апускаецца да самых нізкапробных густаў. Вось і здаецца многім, з лёгкай рукі бульварных выданняў, што гарманічнае палавое жыццё — гэта перш за ўсё акрабатычныя позы... Я ўжо не гавару аб тым, што падобная літаратура проста стракаціць фактычнымі памылкамі, блытае тэрміны і назвы прэпаратаў. Давяраючы такім опусам, людзі рызыкуюць сваім уласным здароўем і сямейным дабрабытам! Заманліва, напэўна. апісваць шчыры расказ прывакзальнай прастытуткі, але хіба гэта дапаможа каму-небудзь стаць больш шчаслівым у інтымным жыцці?**

ЯК СПЯШАЮЦЦА нашы дзяўчаты замуж! Як прыспешваюць час! Ім проста няма калі больш уважліва прыгледзецца да свайго абранніка, больш даведацца пра яго, яго бацькоў, спосаб жыцця, а таксама задумацца аб тых праблемах, якія абавязкова паўстануць перад маладой сям'ёй у будучым. Няхай даруюць мне вартавыя маралі тэта адступленне. Многія сучасныя нявесты абсалютна ўпэўнены, што цяжарнасці можна пазбегнуць, калі адразу пасля палавога акта ўстаць з ложка («Сперматазоіды, вядома ж, выцекуць, куды ім дзявацца?»). Нашы хлопцы-жаніхі, здараецца, прыносяць на прыём да сексапатолага дзённікі, дзе старанна падлічваюць колькасць эякуляцый («Кажуць, за ўсё жыццё іх можна зрабіць толькі 2500»). Вось з такім узроўнем ведаў нашы хлопец і дзяўчына ствараюць сям'ю. Дзіця заводзіць не спяшаюцца, таму самым правільным сродкам папярэджання цяжарнасці яны разам выбіраюць спыненне палавога акта — варварскі спосаб, які прыніжае партнёрку, прымушае яе задавальняцца непаўнацэнным палавым жыццём і ў рэшце рэшт вядзе да сур'ёзных хвароб. Калі цяжарнасць усё ж настае, дзяўчына ўсімі сіламі спрабуе справакаваць выкідыш, не палохае яе і аборт — усе ж робяць...

*ДАВЕДКА. СССР займае першае месца ў свеце па колькасці абортаў — 7 млн. у год. 40 працэнтаў з іх робяць непаўналетнія дзяўчынкі. У Беларусі за апошнюю пяцігодку нараджальнасць знізілася на 20 працэнтаў, толькі ў 1990 годзе зафіксавана на 2 тысячы родаў менш, чым у 1989. А прырода ж помсціць за сябе. Гэта было вядома яшчэ ў пачатку стагоддзя, калі даследаванні рускіх медыкаў паказалі, што сярод жанчын, якія нараджалі, анкалагічныя захворванні сустракаюцца значна радзей, чым сярод манахінь.*

І калі нашы героі праз год або два вырашаць, нарэшце, абзавесціся дзецьмі, то вельмі часта ўжо проста позна: насілле над арганізмам не праходзіць бясследна, і дзіця нашай дзяўчыне ўжо ніколі не нарадзіць.

А ЦЯПЕР зададзім пытанне: дзе маладым было навучыцца сексуальнай грамаце, хто дапамог бы ім рашыць іх праблемы?

Кнігі? Да апошняга часу гэта былі хутчэй зборнікі безапеляцыйных загадаў, на кожнай старонцы якіх савецкаму чалавеку штосьці «не рэкамендавалася» або «забаранялася». Такой ужо нецярпімай была мараль: кнігі — браты-блізняты, рэкамендацыі — агульныя на ўсіх. Усё, што не ўкладвалася ў гэтыя рамкі, аб'яўлялася заганным і амаральным. Сёння добрая літаратура, нарэшце, напісана. Але была і прамільгнула на прылаўках «Энцыклапедыя маладой сям'і», днём з агнём не знойдзеш кніг Капусціна і Кона. А цэны ў спекулянтаў на іх астранамічныя.

Школа і дысцыпліна «Этыка і псіхалогія сямейнага жыцця», на якую ўскладалася так шмат надзей? Часта набор нагнаўшых аскому плоскіх фраз у мудрагелістым выкладанні настаўніка фізкультуры — вось ЭПСЖ узору 1991 года.

Бацькі? Палове з іх сёння проста не да дзяцей, а другая палова сама тайком штудзіруе які-небудзь «СПИД-инфо».

Лекторыі? Раней любая школа або ПТВ маглі падаць заяўку ў Дом санітарнай асветы і там для навучэнцаў арганізоўваліся выступленні вопытных спецыялістаў па сексалогіі. Але два гады назад калектыў Дома санасветы перайшоў на гасразлік, адмовіўся ад паслуг аўтарытэтаў і сёння ўласнымі сіламі праводзіць платныя лекторыі сумніцельнай якасці і зусім не для падлеткавай аўдыторыі.

Дык ці варта здзіўляцца, што моладзь бярэ інфармацыю з сумніцельных выданняў, якія з гатоўнасцю прапануе вулічны гандаль? Здараецца, што, спрабуючы рашыць свае сексуальныя праблемы, дзяўчаты звяртаюцца — куды б вы думалі? — у Камітэт савецкіх жанчын...

А, між тым, у Мінску ёсць куды звярнуцца па дапамогу. З 1974 года дзейнічае цэнтр па пытаннях сям'і і шлюбу, даступны для любой сямейнай пары. Маладыя людзі атрымаюць кансультацыю ў псіхолага, выслухаюць парады ўрача ў кабінеце кантрацэпцыі, іх навучаць неабходным навыкам догляду дзіцяці, пры неабходнасці акажуць і больш істотную медыцынскую дапамогу. Цэнр арыентаваны менавіта на сям'ю. Але прыкладна 20 працэнтаў маладых людзей ва ўзросце да 30 год не жадаюць уступаць у шлюб. Таму некалькі гадоў назад з «Цэнтра Жукоўскай» у самастойную арганізацыю выдзеліўся Мінскі гарадскі сексалагічны цэнтр, які ўзначаліў вядомы ў рэспубліцы сексапатолаг Д. З. Капусцін. «Да Капусціна» можа звярнуцца кожны, хто хоць пакуль не стварыў сям'ю, незалежна ад узросту. Спецыялісты абодвух цэнтраў захоўваюць строгую ўрачэбную тайну, так што баяцца не варта, а рэкамендацыі можна атрымаць, увогуле не называючы свайго імя. І ўсё гэта — кампетэнтна і бясплатна...

*ДАВЕДКА. Яшчэ зусім нядаўна, каб трапіць на прыём «да Капусціна» неабходна было прастаяць у чарзе не менш як 4 месяцы, агульная колькасць пацыентаў даходзіла да шасці—васьмі тысяч у год. Сёння жадаючых карыстацца паслугамі сексалагічнага цэнтра прыкметна значна менш. Між тым...*

**З гутаркі з Л. А. Жукоўскай:**

**— Колькасць нашых пацыентаў расце — за кошт звяртання з нагоды бясплоддзя і невыношвання. Гэта дзве самыя балючыя праблемы. Нежаданне маладых да ўступлення ў шлюб пракансультавацца ў спецыяліста, у таго ж Капусціна, поўная сексуальная бязграматнасць, і як вынік — бясплоднасць, вымушаюць іх, у рэшце рэшт, звяртацца да ўрачоў, але, калі справа зайшла ўжо вельмі далёка, мы нічога не можам змяніць. Я іншы раз здзіўляюся, наколькі недалёкія нашы парадзіхі: яны быццам не ведаюць алфавіту — не валодаюць элементарнымі звесткамі ні пра сябе, ні пра сваё будучае дзіця. А гэтае ж няведанне абарочваецца потым горкім, часам трагічным вопытам. У Ізраілі ў першакласнай клініцы толькі 2—3 ложкі адводзяцца на выпадак жаночай паталогіі, у нас жа ў сёмай бальніцы — цэлыя тры паверхі. Большасць парадзіх сёння — ужо хворыя жанчыны. І, што самае сумнае, самі ў гэтым вінаватыя...**

КОЖНАЙ пары, якая прынесла заяву ў загс, зараз абавязкова прапануюць абанемент на цыкл лекцый для заручаных «Я плюс Я роўна Сям'я». Хтосьці абыякава пахітае галавой, хтосьці адпусціць «салёны» жарт, хтосьці, засунуўшы запрашэнне ў самую далёкую кішэню, тут жа забудзе пра яго існаванне. А дарэмна... Лекторый складаецца з чатырох заняткаў, па два ў кожны панядзелак. Лекцыі чытаюць лепшыя спецыялісты горада.

У «Я плюс Я...» слаўнае мінулае. Тры гады назад у залу набівалася да 600 чалавек, выступаючых засыпалі пытаннямі, натоўпам праводзілі да прыпынку, дамаўляліся аб паўторнай сустрэчы. А якія былі дыскусіі!

І — сумнае сёння. Адзінокія, дзікаватыя чатыры-пяць сямейных пар — вось і ўся аўдыторыя лекторыя на сённяшні дзень. Яны цярпліва адседжваюць належны час, кожны ў сваёй ракавіне, і гэтаксама ціха ўходзяць, часам не задаўшы ніводнага пытання. На адным з заняткаў псіхолаг Л. І. Дзічкоўская прапанавала слухачам прайсці тэст амерыканскага вучонага В. Леры, каб вызначыць найбольш небяспечныя парогі ў іх будучым сямейным жыцці. Дзіўна, але ніхто не праявіў асаблівай цікавасці да гэтага эксперыменту, маладых нават давялося ўгаворваць. А вось ужо абмеркаваць вынікі тэсціравання адзін на адзін з псіхолагам і зусім не знайшлося жадаючых: міма разгубленага лектара ўсе дружна рванулі па дамах.

Што ж адбываецца? Сённяшняя моладзь эканоміць час? Лічыць, што гэта ўсё ёй непатрэбна і нецікава? Адыграў сваю ролю інфармацыйны бум? Або гэта звычайная легкадумнасць? Апатыя маладых людзей быццам перадаецца і адміністрацыі Палаца чыгуначнікаў, дзе лекторый знайшоў свой прытулак: яго «проста» могуць забыць уключыць у план мерапрыемстваў, і ўзмыленая адказная з таварыства «Веды» будзе бегаць па паверхах, ловячы маладажонаў, якія заблудзіліся...

**З гутаркі з Л. А. Жукоўскай:**

**— Мы вельмі стараемся зацікавіць слухачоў — аднак аддачы няма. А гэта ж патрэбна не нам — гэта патрэбна ім. Проста рукі апускаюцца, калі даводзіцца выступаць «у пустату» — для пары чалавек з патухлымі вачыма. І якое ж выйсце? Закрыць лекторый? І што будзе ўзамен? Нічога...**

Такую сітуацыю проста немагчыма сабе ўявіць у цывілізаванай краіне. Захад мае спецыяльную службу сям'і на дзяржаўным узроўні. У яе штат разам з вопытнымі гінеколагамі, сексапатолагамі, псіхолагамі, сацыёлагамі ўваходзяць палітычныя дзеячы, якія сур'ёзна займаюцца гэтай праблемай. Грунтоўнасць — вось характэрная рыса такой службы. Бо ёй вядзецца і кантралюецца амаль уся работа па палавому выхаванню і вывучэнню маладой сям'і. У школах выкладаецца спецыяльны курс па сексалогіі. Вядзе яго настаўнік, які мае і педагагічную, і медыцынскую адукацыю. І калі падлетку пачнуць тлумачыць на муляжы, як карыстацца прэзерватывам, ён не будзе шматзначна хмыкаць, як яго закамплексаваны савецкі равеснік, ён проста прыме інфармацыю да ведама — і гэта натуральная рэакцыя чалавека. Будучыя жонкі, як правіла, праходзяць тэсціраванне ў псіхолага і ўдумліва абмяркоўваюць яго вынікі.

У Польшчы, напрыклад, маладажоны абавязаны наведваць яшчэ і лекцыі па сексалогіі і гігіене, раздзельныя для маладога і маладой. Так, дарэчы, заведзена і ў суседняй з Беларуссю Літве. І ніхто не лічыць гэту сістэму надакучлівай фармальнасцю, таму што людзі будуюць сям'ю, будуюць надоўга і хочуць быць шчаслівымі ў ёй. Сапраўдны культ сям'і ў Амерыцы. Быць добрым сем'янінам там не менш прэстыжна, чым мець поспех у бізнесе. Таму няма, бадай, ніводнага пытання ў жыцці мужа і жонкі, якое не падвяргалася б уважліваму сацыялагічнаму даследаванню з боку спецыялістаў службы сям'і. Асабліва старанна аналізуюцца прычыны разводаў: дзяржава зацікаўлена ў моцных шлюбных саюзах. Дарэчы, муж і жонка могуць рабіць як захочуць. Яны могуць паспешліва развесціся — аднак ім варта ўлічыць, што шлюбаразводны працэс будзе каштаваць ім дорага. Яны могуць адмовіцца ад непаўнацэннага дзіцяці, але дзяржава потым на працягу ўсяго жыцця будзе ўтрымліваць з такіх бацькоў салідную суму на яго выхаванне. Уся сістэма прывучае людзей да думкі, што рана або позна, але за сваё легкадумства яны вымушаны будуць заплаціць спаўна.

А ШТО Ў НАС? Загсы спраўна падлічваюць колькасць зарэгістраваных шлюбаў. Міністэрства юстыцыі дае зводку разводаў за год. Другой статыстыкі і іншай афіцыйнай інфармацыі аб сям'і не існуе. Таму што сям'я, калі адкінуць убок усе лозунгі і пазаўчарашнія абяцанні, цікавіць нашу вялікую дзяржаву толькі ў межах гэтых дзвюх лічбаў. Усе астатнія пытанні — з якой базай ведаў уступаюць маладыя ў шлюб, якім будзе іх патомства і ці будзе ўвогуле, што хвалюе маладую сям'ю і дзе ёй тэрмінова неабходна дапамагчы, — клопат пакуль што толькі медыкаў. У 1987 годзе дырэктар лекторыя «Я плюс Я...», загадчыца Палаца шлюбаў і загадчыца Цэнтра па пытаннях сям'і і шлюбу звярнуліся з пісьмом у Мінгарвыканком. У ім спецыялісты заклікалі гарадскія ўлады сур'ёзна заняцца праблемай палавога выхавання, хоць бы падтрымаць тое нямногае, што тады яшчэ існавала ў горадзе. З падобнымі прапановамі звярталіся яны і ў Вярхоўны Савет БССР. Адказу няма і па сённяшні дзень. Сітуацыя толькі пагоршылася. Так што аб стварэнні паўнацэннай і эфектыўнай службы сям'і ў Мінску даводзіцца толькі марыць.

Напаследак хацелася б прывесці адзін красамоўны прыклад. Некалькі гадоў назад у Цэнтральным загсе працаваў малады псіхолаг В. Е. Рэзнікаў. Да яго ў якасці эксперыменту накіроўваліся ўсе пары, якія прыйшлі з жаданнем развесціся. А пасля гутаркі прыкладна палова з іх адмаўлялася ад свайго намеру. Цуд? Не, усяго толькі савецкія сем'і ўпершыню атрымалі кансультацыю ў спецыяліста...

**Людміла ГАБАСАВА.**





*Се ля ві?*

# МУЖЧЫНЫ НА ПАНЭЛІ

ДОЖДЖ. Настрой пахмурны, такі ж як і мокры дзень. Вечар. Я, вырашыўшы адкласці ўсе справы і клопаты, зайшоў у «Світанак».

Мінчане клічуць гэта кафэ «сметнікам». Адзінае добрае, што там ёсць, дык гэта струнны квартэт, дзеля якога я, уласна кажучы, і заходжу сюды, калі ёсць час, грошы і настрой.

Адміністратар запрасіла мяне за столік, дзе ўжо штосьці заказваў малады чалавек гадоў дваццаці двух.

Размова не атрымлівалася. Спрабуючы неяк знайсці агульную тэму, я пачаў філасофстваваць наконт усеагульнага запусцення. Аднак Глеб, так звалі хлопца, адмаўляўся на мяне рэагаваць.

І раптам:

— Ты прабач, што я сваім выглядам табе настрой псую. Надакучыла проста гэта пастаянная балбатня ні аб чым. І бруд гэты надакучыў, і грубасць, і нянавісць. Я — блакітны.

Усё гэта было сказана вельмі павольна і зусім спакойным тонам. Я ніяк не мог прыйсці ў сябе ад гэтай інфармацыі. Звычайныя людзі з падобным сексуальным напрамкам стараюцца не афішыраваць свае схільнасці. Як ні круці, а адносіны да іх у членаў нашага «добрапрыстойнага» грамадства больш чым адназначныя.

— Ты што гэта ў твары змяніўся? Што я такога асаблівага сказаў? Так. Блакітны. Ну і што? Для мяне гэта не толькі асаблівасць фізіялогіі, але і спосаб жыцця, — Глебу яўна захацелася выказацца. — Нават, калі б я меў магчымасць, мяняць бы нічога не стаў. Таму што лічу сябе нармальным чалавекам.

Нас цэлая кампанія. Чатыры хлопцы і дзве дзяўчыны. Як пазнаёміліся? Гісторыя доўгая. Некалькі год назад на «панелі» сустрэў хлопца аднаго са мной узросту. Мы спадабаліся адзін аднаму і ён стаў не толькі маім пастаянным палавым партнёрам, але і таварышам. Потым звёў мяне са сваім знаёмым, і некаторы час мы былі ўтраіх. Але замкнуты спосаб жыцця весці нецікава. Кожны з нас час ад часу з'яўляўся на «панелі», і калі партнёр быў «талковы», то мы ўводзілі яго ў сваю кампанію. Потым ужо ад яго залежала — застанецца ён ці не. Так з'явіўся чацвёрты. Зусім выпадкова сустрэлі мы дзвюх дзяўчын-лесбіянак у «Патсдаме».

Усе мы жывём у розных раёнах, і калі хочацца сабрацца разам — звязваемся па тэлефоне. Гуляем, ходзім у кіно, па рэстаранах, на канцэрты, зрэдку ў тэатр. Нам проста лёгка, весела і добра разам. Раней, яшчэ да сустрэчы з нашай кампаніяй, было цяжка аднаму.

— Ты працуеш, вучышся?

— Ні тое, ні другое. Штосьці прадаю, штосьці купляю — хапае. Жыву з бацькамі. Праўда, з імі практычна не кантактую. Ведаю, што любяць мяне, але не хапае вытрымкі цярпець іх погляды на жыццё і адпавядаючыя гэтым поглядам учынкі.

— Глеб, а «панель», што гэта такое ў вас?

— У Мінску проста маса такіх кропак. У асноўным, гэта грамадскія туалеты, бані. Калі захочаш, я пакажу табе адно месца...

Вечар наступнага дня. У палове на восьмую, мінуты праз тры, павінен падысці Глеб. А вось і ён. Накіроўваемся да туалета. Глеб ківае на адзінокія мужчынскія фігуры.

— Зойдзеш унутр, ідзі да далёкіх кабінак, там свет павінен быць патушаны, — атрымліваю апошнія настаўленні.

Было крыху няёмка. Пакуль я знаходзіўся ў кабінцы, злавіў некалькі пільных позіркаў па суседству.

— Некаторыя праводзяць тут цэлыя суткі, — змрочна ўсміхнуўшыся, заўважыў Глеб, калі я вярнуўся. — Ты туды на пяць мінут зайшоў і то ледзь не памёр ад недахопу кіслароду, а яны там, можна сказаць, жывуць. Проста няма выбару. У плоці свае жорсткія законы. Большасць з пастаянных наведвальнікаў — людзі без пэўных заняткаў і сродкаў на жыццё, шмат пажылых. Бруд, холад, а яны вымушаны стаяць. Чакаць. «Падхапіць» тут што-небудзь — пустая, лёгкая справа, але вопытны заўсёды адрозніць талковага партнёра.

Бытуе ў гэтым асяродку і такое паняцце, як «рамонт». Хто-небудзь «клюе» на прывабны тварык. Потым ідуць у цёмнае месца і як толькі пачынаюць «займацца», з-за вугла выходзяць... Хлопца распранаюць і, у лепшым выпадку, адпускаюць. У горшым — збіваюць да беспрытомнага стану, гвалцяць.

— Шкада тых, хто трапляе ў такія пераплёты?

— А чаго іх шкадаваць? Усё роўна нічым не дапаможаш... Сволачы! Усе сволачы, і я не выключэнне. Слухай, Лёха, у цябе няма чаго выпіць? А то паехалі куды-небудзь — я замёрз, як сабака...

## ЗАМЕСТ КАМЕНТАРЫЯ

У Інстытуце гісторыі АН Эстоніі з 28 па 30 мая мінулага года праходзіла канферэнцыя «Сексуальныя меншасці і грамадства. Змены ацэнак гомасексуальнасці ў XX стагоддзі ў Еўропе». Замест каментарыя прапаную вытрымку з артыкула, прысвечанага рабоце канферэнцыі і надрукаванага ў часопісе «Узаемнасць» («Антэк», № 2, 1990 г.) Сваімі прагнозамі дзеліцца Тээт Вейспак, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН Эстоніі:

«Сексуальныя меншасці — частка нашай рэальнасці, і наўрад ці хто сёння гэта будзе адмаўляць. У заходніх краінах існуюць спецыяльныя даследчыя цэнтры, рэгулярна праводзяцца канферэнцыі, выдаюцца кнігі, часопісы, газеты, адрасаваныя гомасексуалістам і аб іх... У СССР жа... пануе поўны абскурантызм. Няма нават літаратуры аб сексуальных меншасцях. А антыгуманныя акты, учыненыя супраць іх, проста ганебныя. Вядома, гомасексуальнае гвалтаванне павінна карацца як і гетэрасексуальнае.

Параўнанне становішча сексуальных меншасцей на Захадзе і на Усходзе без перабольшання прадэманструе іх сумны стан у краінах Усходняй Еўропы і, спадзяюся, стымулюе навуковае вывучэнне праблемы. У грамадстве, якое мяняецца (а менавіта да такога мы адносімся), падобныя веды неабходныя. Гэта ў нейкай меры прывядзе да росту цярпімасці і разумення сутнасці гомасексуалізму.

Сексуальны выбар партнёра — прыватная справа. Спадзяёмся, што хутка ён не будзе ў сферы пільнай увагі карных органаў».

ДАДАМ толькі, што літаральна днямі я сустрэўся з Глебам. Ён купіў турпуцёўку ў Фінляндыю.

— Збіраешся вяртацца?

— Ты ў сваім розуме?

**Аляксей КРАЎЧАНКА.**

*Маладой гаспадыні*

# Новае пра вядомае

Апёк маслам. Што рабіць? Калі кіпячае масла пырснула з патэльні і трапіла на скуру, адразу ж падстаўце апечаную руку, нагу, пад струмень халоднай вады на 10—15 хвілін або прыкладайце да апечанага ўчастка скуры халодныя прымочкі, лёд з халадзільніка, нават замарожанае мяса (папярэдне загарнуўшы яго і лёд ў чысты поліэтыленавы пакет).

Потым прасушыце месца апёку чыстай тканінай — бінтам, ручніком, лепш вафельным, а не махровым і не ватай. Калі ж на скуры засталіся рэшткі масла, зніміце яго ватным тампонам, змочаным мыльным растворам. У тых выпадках, калі апёк невялікі, скура толькі пачырванела і на ёй з'явіліся невялікія пухіры, павязку можна не накладваць. Дастаткова некалькі разоў у дзень апрацоўваць апечаную скуру спецыяльнымі аэразолямі тыпу «Левіян», «Вінізоль», «Аксіцыклазоль», «Пантэнол», якія прызначаны спецыяльна для лячэння паверхневых апёкаў і прадаюцца ў аптэцы без рэцэпта ўрача. Калі ж на скуры пасля апёку маслам утварыліся вялікія пухіры, напоўненыя серознай або гемарагічнай вадкасцю, накладзіце сухую стэрыльную сурвэтку, свабодна замацуйце яе некалькімі турамі бінта. І неадкладна звярніцеся ў тэрапеўтычны пункт або да хірурга паліклінікі па месцы жыхарства. Пры апёках павек і вачэй трэба тут жа паказацца афтальмолагу.

***

А ці можна папярэдзіць апёк кіпячым маслам? Вядома: для гэтага трэба насыпаць на патэльню крыху паваранай солі.

А ці можна прамываць зварaны рыс? Лепш гэта не рабіць, бо пры прамыванні рыс траціць значную частку вітамінаў групы В і да таго ж становіцца менш смачным.

***

Ці шмат мы ведаем пра соль? Напэўна, не! Толькі тое, што яна неабходная для арганізма чалавека, але, аднак, у малых дозах. А вось некалькі парад аб практычнай карысці солі ў вашым штодзённым жыцці.

Калі пасля чысткі цыбулі або апрацоўкі селядца нацерці рукі соллю, а потым памыць — непрыемны пах знікне.

Калі ў крухмал дабавіць соль, бялізна прыгожа блішчыць.

Каб вада ў грэлцы даўжэй не астывала, дадаць у яе крыху солі.

Махровыя ручнікі і халаты будуць мяккімі і пушыстымі, калі пасля мыцця патрымаць іх крыху ў салёнай вадзе, пасля гэтага апаласнуць, высушыць і не прасаваць.

Каб пачысціць моцна падгарэўшыя каструлі і патэльні, пасыпце дно тоўстым слоем солі, наліце крыху вады і пакіньце на некалькі гадзін.

***

Некаторыя дзеці вельмі любяць малако і выпіваюць яго да двух літраў у дзень. Ці добра гэта? Не вельмі. Хоць малако — галоўны прадукт для растучага арганізма, але дзіцяці, якому больш як паўгода, ужо недастаткова толькі тых харчовых прадуктаў, якія яно можа атрымаць з малаком. Яму неабходна разнастайнае харчаванне, а малака ў яго сутачным рацыёне павінна быць не больш як 500—600 грамаў, уключаючы і тое, што ідзе на прыгатаванне каш і іншых страў. Пажадана прыблізна палову гэтай колькасці малака замяняць кефірам, сыраквашай (лепш купленай у магазіне, а не заквашанай самімі), ацыдафілінам, ражанкай і іншымі кісламалочнымі прадуктамі. Харчовая каштоўнасць малака і гэтых прадуктаў аднолькавая, але ў кісламалочных больш ферментаў, вітамінаў і арганічных кіслот, якія актывізуюць і паляпшаюць працэсы стрававання, нармалізуюць бактэрыяльную флору кішэчніка. Таму кісламалочныя прадукты асабліва рэкамендуюцца дзецям пры парушэнні дзейнасці органаў страўнікава - кішачнага тракта і некаторых захворваннях, у прыватнасці, алергічных.

***

Ці праўда, што гарбузовыя семкі з'яўляюцца глістагоннымі? Так. Свежыя (не падсмажаныя) семкі гарбуза ўтрымліваюць смалістае рэчыва, якое знішчае гельмінтаў. 100—150 грамаў семак расціраюць з малаком і прымаюць усю гэту кашыцу нашча па чайнай лыжцы на працягу гадзіны.

Шклянка сумесі свежага соку з морквы, буракоў і агурка (у роўных прапорцыях) узбагачае рацыён вітамінамі, мінеральнымі рэчывамі, мікраэлементамі, пекцінамі. А тым, хто пакутуе на розныя захворванні печані, жоўцевых пратокаў, мачавога пузыра, карысна піць такі кактэйль за паўгадзіны да яды, бо свежыя агародніннныя сокі маюць мачагоннае і жаўцягоннае дзеянне.

***

Беражыце падпахі — месца праходжання нервовых ствалоў рукі. Любая іх траўма можа стаць прычынай парушэння функцый верхніх канечнасцей. Таму, займаючыся на спартыўных снарадах, сачыце за тым, каб яны не ціснулі на падпахі. Рамяні рукзака, лыжныя палкі адрэгуляваць трэба строга па росту.

**Сабраў М. ЛІБІНТАЎ.**

*Пародыі*

А. НЕНАДАВЕЦ

## Заплялася

*На маіх даланях мазалі.*
*Мы з дзядулем кашоў*
*наплялі.*
*Сёння я прадаю кашы*
*У Расонах на кірмашы.*
*І я важная з гэтай*
*прычыны!*
*І мяне абступілі жанчыны.*
**«Кірмаш» Ганна Іванова.**

А мяне абступілі жанчыны,
Справа, бачыце, у важнай
прычыне:
Ў Расонах на кірмашы
Прадаю я ад рання кашы.
Наплялі мы з дзядулем
кашоў,
Назбівалі сабе мазалёў.
Але думкі нас цешаць другія:
Будуць грошы, ды ці малыя!
Прадаю я налева, направа,
Хутка мчыцца да фінішу
справа...
Дома бацька гукнуў
з-за стала:
«Во, не вершы — кашы б
лепш пляла!»

## «Крамола з крам»

**Стаў вядомы аўтар ананімнага рамана «Перабудова паўчарашняму». Гэта агульны сябра мясніка Мышкавіцкага гастранома № 13 і дырэктара мясцовага выдавецтва «Сваякі».**

***

**Мастацтва, як і шклатару, прымаюць не ад кожнага.**

***

**Тварэц той, хто са сціплых лаўровых лісцікаў можа сплесці лаўровыя вянкі сваім нашчадкам.**

***

**У краме «Тысяча дробязей» педагог Ф. купіў жонцы адну дробязь. На дзве зарплаты, «кампенсацыю» і восем колішніх заначак.**

***

**Паэт У. Хвост ужо дайшоў да таго этапа росквіту таленту, калі ўсе яго прыжыццёвыя зборнікі ў выглядзе макулатуры пачалі здаваць у абмен на зборнік прозы ягонай жонкі А. Хвост «Чаму ён пісаў?»**

***

**Сустрэча дырэктараў гархарч- і прамгандляў у рэстаране «Для сваіх» скончылася лікам 7.000 рублёў.**

**К. КАРНЯЛЮК.**

*Уладзімір* ТРАЦЦЯКОЎ

*3 серыі*

## «Крыху дзіўныя гісторыі»

### ЯШЧЭ АДНА ПАЛІТЫЧНАЯ АХВЯРА

Колькі год назад развітаўся Васіль са сваёй культурнай установай і зажыў па начах складаным духоўным жыццём. Бо пра што яшчэ раздумваць начному вартаўніку, як не пра рацыянальны і трансцэндэнтны, касмічны лёс Зямлі і непаўторнасць асобы? Паверыць цяжка: даўно ўжо развіднеецца, а ён дамоў ісці не хоча! Змена прыйдзе са спазненнем, прабачэння просіць, а ён: «Ды нічога, я й не заўважыў».

**І навошта ж было дзяржаве павагу да культработнікаў паказваць, заработную плату ім павышаць! Бо Васіль вымушаны быў вярнуцца ў свой Дом культуры. У грошах ён няшмат ад гэтага страціў, няма чаго гаварыць, але з духоўным жыццём стала зусім слаба...**

### ЖАНЧЫНЕ — ДЫ КАБ НЕ ПАТРАПІЦЬ!

Нейкі работнік, па імені Хведзя, займаў пасаду вельмі непрыкметную. Але за ўсё і ўсіх стараўся адказваць. Нават калі гэта яго й не тычыла. Словам, быў ён безадмоўным. Скажуць зрабі — зробіць, папросяць прыйсці— прыйдзе, кіўнуць дапамагчы—дапаможа. Быў, так бы мовіць, да паслуг усіх і кожнага.

Не вытрымала неяк жонка ягонага такога жыцця і звярнулася да яго з дакорам.

— Што ж ты, Хведзя,— сказала яна,— сяброў сваіх пазабываў? Справы для цябе за людзей важнейшыя! Эх ты, дзеяч мой бурапенны, каб калі ўспомніў пра іх! Прыйшоў бы з імі дамоў, хай сабе і падпіты крыху, даравала б табе. Але каб не такі справамі заклапочаны! Няхай бы глупства плёў, а сябры каб рагаталі і люба падтрымлівалі цябе ў вертыкальным стане.

**Не, гэтыя жанчыны непрадказальныя бываюць, не скеміш часам, што ім трэба.**

**А што Хведзя, пытаецеся? Хведзя, канешне, толькі рукамі развёў. Даруй, маўляў, не мой узровень.**

### АБЫЯКАВАСЦЬ ПА-НАВУКОВАМУ

Вучоны чалавек Янка, але многіх простых рэчаў не разумее. Вось што з ім аднаго разу з-за ягонай някемлівасці здарылася.

Мала было Янку планавых даследаванняў, дык ён яшчэ ў нетры фундаментальных праблем панадзіўся паглыбляцца. І быў за гэта пакараны. Бо знайшоў нешта сабе не па рангу: новую ўласцівасць матэрыяльнага свету. Якую ніхто нідзе не назіраў.

Забурліла тут навуковае асяроддзе.

— Індывідуй! — крычалі адны. — Прэ на абгон калектыву і не саромеецца!

— Асадзі назад, нахабнік! — падтаквалі другія.— Іван Іванавіч, на што сур'ёзны вучоны, але на адкрыцці не прэтэндуе!

Крычаць — і на навуковы Алімп час ад часу дый глянуць. А там, як і належыць, алімпійскі спакой. Нічога істотнага не здарылася, усё як мае быць. Слушна, маўляў, крычыце, таварышы.

Цяжка стала Янку на працу хадзіць. А як жа інакш, калі для ўсіх ты — непажаданая асоба.

І няўцям Янку, вучонаму чалавеку: **хочаш зрабіць навуковае адкрыццё — унясі ты яго спачатку ў план навуковых даследаванняў. Тады, дарэчы, і ў сааўтарах недахопу не будзе.**

*Кіназала «Гарчычніка»*




*Думкі ўслых*

**У цяперашні час вельмі проста зрабіць з чалавека звера. Дастаткова толькі не пакарміць некалькі дзён.**

***

**Таму адзін прыпісаны ў адным месцы жыве ў другім, а працуе ў трэцім, што тыя, ад каго залежыць гэтую прапіску скасаваць, думаюць адно, гавораць другое, а робяць трэцяе.**

***

**У залежнасці ад акалічнасцей і характару адно і тое ж можна называць і злішкам сіл, і недахопам розуму.**

**Ф. МАКАРЭВІЧ.**



Малюнак В. САКОВІЧА.

*Ліра сатырыка*

## П'яны, як баран

**Хлопец выпіў вельмі многа,**
**Потым вылез на дарогу.**
**Бачыць слуп. Ілбом ён — бах!**
**Слуп стаіць. Сам — у кустах.**

**М. ВЯРШЫНІН.**

*Рагачоўскія жарцікі*

## Навыперадкі

Хвядос Тарасавіч пасля добрага падпітку раніцай прыйшоў на работу, убачыў на вешалцы свой капялюш і ўсміхнуўся:

— Глядзі ты, я яшчэ ў дарозе, а ён ужо тут!

**Міхась СЛІВА.**

*Паэт-прывітанне з Лепеля*

***

*Паэт з сяла на золку дня*
*У стайні не знайшоў каня.*
*Па плану, коніка Пегаса*
*Дзяржаве здаў калгас на мяса.*

**У. СЕДЗІН.**

Дзяжурны рэдактар А. КАМІНСКІ.

Мастацкае афармленне нумара В. ДУБОВІКА.

ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА

Заснавальнік: ЦК ЛКСМ Беларусі

Выдавец: газетна-выдавецкая фірма «Белая Русь»

Газета ўзнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга

АДРАС рэдакцыі: 220041, г. Мінск, Ленінскі праспект, 77, ТЭЛЕФОНЫ: 32-13-54, 32-50-01.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі, г. Мінск. Індэкс 63906

Галоўны рэдактар Уладзімір БЕЛЬСКІ.



Зак. № 26.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12